

Слаўныя гаспадары ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Пішу пакуль ёсць магчымасць ➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 42 (3361) Год LXV | Беласток, 18 кастрычніка 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Віктар САЗОНАЎ




# Самае галоўнае






Беларусь працягвае ўпісваць у сусветную гісторыю змагання за свабоду ўсё новыя і нязвыклыя старонкі, якіх дагэтуль тая гісторыя не ведала. Ну а як па-іншаму можна ахарактарызаваць сустрэчу з вязнямі ў засценках турмы ў Мінску, дзе фактычны трымальнік улады ў Беларусі правеў працоўнае абмеркаванне важнейшых дзяржаўных пытанняў з некаторымі палітзняволенымі прама ў той турме?! Вось гэта дык нарада! Ну дзе яшчэ такое было?! Але трэба прызнаць, што нейкая логіка ў выбары месца сустрэчы ўсё ж прысутнічае. Калі паўсюдна турма, то якая ўжо розніца дзе сустракацца.

Нельга лічыць выпадковасцю, што месца за круглым перамоўным сталом хапіла не ўсім. Але падбор менавіта гэтага складу суразмоўцаў пакуль застаецца таямніцай. Не было там і нацыянальна-хрысціянска арыентаванага Паўла Севярынца, ні радыкальнага і бескампраміснага Мікалая Статкевіча, ні, нават, бяспашпартнай Марыі Калеснікавай. Не было і яшчэ многіх з шырокага кола арыштантаў, колькасць якіх у засценках па ўсёй краіне працягвала расці нават падчас таго гістарычнага спаткання. Сілавыя ведамствы не спыняюць пакуль што свайго рэпрэсіўнага канвеера ні ўдзень, ні ўночы, ні падчас гістарычных сустрэч зняволеных за круглым турэмным сталом.

Ну а пасля абмеркавання нейкіх там пытанняў, якія так і не былі агучаны для шырокіх мас, усе перамоўшчыкі зноў разышліся па сваіх камерах. І нават арганізатар гэтай сустрэчы таксама паехаў у сваю, дзе як і ўсе астатнія зняволеныя правёў рэшту ночы пад моцнай аховай.

Чаму ён прыехаў у турму КГБ на гэтую сустрэчу, а не прывёз вязняў у сваю рэзідэнцыю, застаецца самай вялікай загадкай ад гэтага спаткання. Усё іншае, хіба што, збольшага зразумела. Зрэшты, розніцы вялікай няма. Ну, бытавыя ўмовы ў яго значна лепшыя, чым у турме, вядома ж. Але ўсё астатняе, высокія платы, моцныя краты, навейшая сігналізацыя, бязлітасная і жорсткая ахова ды немажлівасць уцячы з абмежаванай тэрыторыі без рызыкі для жыцця, усё прыкладна такое ж. Турма яна і ёсць турма.

Сяргею Ціханоўскаму далі пагаварыць па тэлефоне з жонкай. Сама ж Святлана Ціханоўская непасрэдна перад гэтымі падзеямі сустракалася з Макронам і Меркель. Усёй тэматыкі іх размоў мы не ведаем, але пасля сустрэч з гэтымі вядучымі еўрапейскімі палітыкамі ў адным з інтэрв'ю Ціханоўская заявіла, што не супраць пагаварыць з Пуціным пра вырашэнне крызіснай сітуацыі ў Беларусі. І яна нават хоча, каб той далучыўся да нейкага там перамоўнага працэсу ў якасці...

Ды якая розніца ў якой якасці?! Пуцін, як мы добра ведаем і памятаем, хоча Беларусь далучыць да Расіі часткамі або цалкам, і іншых варыянтаў не разглядае і не будзе разглядаць. Ну а спадзявацца выкарыстаць яго ў сваіх інтарэсах пакуль што не ўдавалася нікому. І тыя Макрон з Меркель ужо саступілі яму на ўсіх перамоўных пляцоўках усё што можна і працягваюць саступаць. Таму да іх парад варта ставіцца даволі скептычна. Старая мудрасць падказвае, што шулеру прайграеш ужо тады, калі сядаеш з ім за гульнявы стол. Спадзевы перайграць або выкарыстаць у сваіх інтарэсах сённяшняга расійскага кіраўніка з'яўляюцца паказчыкам абсалютнай дэзарыентацыі ў рэальнасці ўсіх, хто далучыўся да стварэння гэтага абсурднага плана.

Ды і месца галоўнага перамоўшчыка з Пуціным па пытаннях Беларусі ўжо даўно занятае. І каб на яго прэтэндаваць, трэба прапанаваць Уладзіміру Уладзіміравічу нашмат больш, чым папярэдні перамоўшчык.

Яшчэ да пачатку выбараў, на старонках „Нівы” № 30 (3350) у сваім фельетоне ад 26 ліпеня „Ці магчымыя змены” Міхась Андрасюк падзяліўся сваімі ўражаннямі пра кандыдатаў і пастараўся абудзіць у чытачоў адну вельмі важную развагу. Андрасюк тады заявіў, што, канешне, можа ўявіць Святлану Ціханоўскую прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, нават з радасцю. Але вось прадставіць яе раўнацэнным сапернікам на палітычным рынгу, прыкладам, Уладзіміру Пуціну, тут у аўтара ўяўленне падводзіла.

Трэба з горыччу прызнаць, што пакуль што лік адзін нуль на карысць Пуціна. І калі такая гульня, якую навязалі бяздарныя дарадцы прадстаўніцы беларусаў, якую абраў Час, Лёс і Народ будзе працягвацца, то нуль застанецца нулём, а вось з другога боку лічба будзе расці ў геаметрычнай прагрэсіі.

Няўжо яшчэ ёсць такія дарадцы, да каго не дайшло, што стаўку рабіць можна толькі на беларускі народ? Толькі! Гэты народ тысячу разоў ужо падманвалі, прадавалі, дзялілі, спрабавалі асіміляваць, пазбавіць гістарычнай памяці, вырадзіць... І гэта засталося ў яго генетычнай памяці і зараз дазваляе прымаць правільныя калектыўныя рашэнні. Ён увесь час адраджаўся як птушка Фенікс. І зараз важным з'яўляецца тое, што ў Беларусі ўжо абудзілася і адрадзілася грамадзянская супольнасць, і што старадаўні народ зноў стаў сам выкарыстоўваць сваю даўнюю здольнасць да прыняцця калектыўнага рашэння ад свайго імя. І гэта ўжо ні ў каго не выклікае сумневу. І што самае важнае, выходзячы з досведу двухмесячнага супрацьстаяння мірнага народа і ўзброенай улады, ні ў каго ўжо больш ніколі і не ўзнікне гэтых сумневаў ва ўсёй гістарычнай перспектыве.

Беларускі народ даказаў усім, а найперш самому сабе, што ён умее кантраляваць сам сябе і свае паводзіны ў вельмі шырокай масе людзей. За два месяцы мірнага супрацьстаяння, калі вуліцамі беларускіх гарадоў, і на захадзе, і на ўсходзе краіны, і ў сталіцы, прахадзілі сотні і сотні тысяч людзей з бела-чырвона-белымі сцягамі, не было нават аніводнай разбітай вітрыны, акрамя той, якую растаўклі самі сілавікі. Народ даказаў свае здольнасці да самакантролю і самакіравання, якія яскрава праявіліся на мірных пратэстах. І па ўсім бачна, што народ можа даказаць сваю здольнасць да вядзення любога сцэнарыя і любых перамог, якія сам і вызначыць у залежнасці ад патрэбы. Тыя, хто так доўга могуць трымаць мірны пратэст, дакладна здольныя самаарганізавацца для рэалізацыі ўсяляких іншых задач, бо менавіта мірны пратэст трымаць найцяжэй.

Зараз усё часцей у беларускім грамадстве пачынаюць блукаць сумневы: а ці не занадта яны мірныя, тыя беларускія пратэстоўцы? Ці не ёсць злачынствам такое глабальнае несупраціўленне злу? Ці не прадугледжвае змаганне за справядлівасць большых патрабаванняў ад другога боку? Бо ўжо атрымалі ўдар і па другой шчацэ, якую беларускае грамадства падставіла ўладам, трымаючыся хрысціянскай філасофіі. І дасталі не адзін раз. І ці не абуджае такое несупраціўленне злу сілай у другога боку пачуцця беспакаранасці і прагі пераступаць закон? Ці не спрыяе такая мірнасць павелічэнню злачынстваў з другога боку?

А ў гэты час улады і сілавыя структуры з усіх сіл правакуюць грамадства.

чытайце ☞ 2

1 ☞ працяг

Вось і зараз, адразу пасля незразумелай суботняй нарады з вязнямі ў турме, пасля якой многія спадзяваліся на адлігу і пачатак перамоўнага працэсу ўлад з грамадствам, на мірнай нядзельнай акцыі супраць пратэстоўцаў зноў быў выкарыстаны шырокі арсенал спецсродкаў: і светлашумавыя гранаты, і вадамёты, і страляніна, і галоўны аргумент улад — АМАП з дубінамі. Людзей разганялі, білі, запіхалі ў аўтазакі, затрымлівалі, праваквалі, хапалі дзе толькі маглі — і ў Мінску, і ў Гародні, і ў іншых гарадах Беларусі.

Але людзі збіраліся зноў і зноў, падымалі бела-чырвона-белыя сцягі і працягвалі ісці. Проста ісці, каб чарговы раз задэкляраваць, што яны настойваюць на сваім, на справядлівасці, на праўдзе, на чэснасці. Беларусы ідуць, каб паказаць, што яны адзіны народ, які больш нікому не дазволіць вырашаць свой лёс. Ніякія замежныя пасрэднікі ў ніякіх перамовах, а тым больш тыя, хто будзе прымаць за яго рашэнні яму больш непатрэбныя. Ён сам будзе рашаць свае праблемы і будаваць сваю будучыню...

І вось яшчэ адна важная гісторыя.

У нядзелю з раніцы, акурат перад пачаткам мірных акцый пратэсту, мне пазваніла сталага веку жанчына.

— Мне падказалі ваш тэлефон, — пачала тлумачыць яна прычыну званка. — Мне сказалі, што вы дапамагаеце людзям. Дапамажыце і мне.

— Так, — адказваю я, мяркуючы, што чалавеку трэба наша праваабарончая дапамога. — Мы як праваабаронцы даем юрыдычныя кансультацыі і аказваем іншую пасільную падтрымку.

— Мне трэба іншая дапамога, — перабівае яна мяне. — Мне трэба даведацца, дзе сёння збіраюцца людзі на акцыю? Бо я старая, у мяне баляць ногі, я не магу аблётаць увесь горад каб знайсці іншых, а ўжо каторы тыдзень хачу далучыцца да акцыі. Каб хоць зараз, на старасці гадоў, адчуць сябе чалавекам і пачуць сябе годна.

Пасля гэтых слоў імгненна завіравалі ўсе пачуцці душы. Беларусы абудзіліся, каб адчуць сябе людзьмі і народам. Зараз вось гэта і ёсць самае галоўнае.

❖Віктар САЗОНАЎ

*Міра ЛУКША*

## Я і Мы

Узняліся сцягі над Каліноўскім,  
беларускія, літоўскія і польскія.  
Дзякуй Табе, гаспадару з Мастаўлянаў,  
што ўстаем з кален з падпанкаў і з-пад панаў,  
што жыруюць з імперскім аскалам,  
што ўсяго ад нас ім надта мала,  
крывапіўцаў трыбушастых і дурастых,  
што з дубінкай Беларусаў гоняць часта,  
а Жанчынаў б'юць, дзяруць за косы.  
Беларус не раб ён белавусы, у лапцях, босы!  
Адчуваць умее, думаць, планаваць і біцца,  
з самадурам і прыдворнай світай палічыцца!  
Не народзец, а народ, хай з розных нацый,  
што стагоддзямі і з намі тут радняцца,  
ой, такіх ён чорных нечысцяў пагоніць!  
Сцяг над намі, разам з Богам і Пагоняй!

# Мозгам не ахопіш



Можна было б спадзявацца, што «łeb» генія ўсіх часоў Альберта Эйнштэйна быў такі ж вялікі, як і прыказкавы склеп. Ну, не памерам складзіка, з-пад знаку вымерлага ГСу (дзе і селядзец быў у бочцы, і цвік у скрынцы, і шэрае мыла ды з варэннем), а хаця б у мікрараённай крамкі. З іншага боку, апошнія прадаюць сёння не што іншае, як першае, але ў хаатычным лішку. Дык ці прыводзіць лішак да хаосу? Звярніце ўвагу на гэты момант, што ў канцы папярэдняга сказа я паставіў сарамлівы знак пытання, а не клічнік. Тут я іду за амерыканскім пісьменнікам Фрэнсісам Скотам Фіцджэральдам, аўтарам, сярод іншага, рамана «Вялікі Гэтсбі», які сцвярджаў, што клічнік у тэксце падобны на смех з уласнага жарту. Быццам бы гэта вялікі кампанейскі сорам. Я з гэтым цалкам згодны, хаця з вялікім задавальненнем выкарыстоўваю ў сваіх тэкстах клічнікі. Каб не саромецца гэтым разам, запэўніваю вас, што я не маю на ўвазе пасёлкавых крам. Іншая справа, што сціплы спіс пакупак, які я складаю кожны раз, калі еду да адной з іх, ніколі не пагаджаецца з тым, што я потым нясу дадому ў вялікіх торбах. Быццам бы я планаваў паляваць на зайца і аўтаматычна застрэліў мамантa. Але што рабіць з такой непатрэбнай гарой ежы? Ці яшчэ — лішкам. Гэта была вялікая праблема чалавечага віду з самага пачатку. Я мяркую, што нашы продкі дзесяць тысяч гадоў таму сутыкаліся з падобнай праблемай. Жывучы невялікімі сямейнымі паляўнічымі групамі, калі яны палявалі на беднага мамантa, яны не маглі з'есці яго адразу. І мяса хутка псавалася. Такім чынам, яны выразалі з яго найсмачнейшыя кавалачкі, а астатняе пакідалі сіпам. Калі яны прагаладаліся, забівалі яшчэ аднаго няшчасніка. Прасцей кажучы, яны не маглі ўпаляваць толькі тую частку, якая ім спадабалася, напрыклад, яго смачную трубу, таму яны мусілі забіць яго — так бы мовіць — у марнатраўным цэлым. І таму мамантаў забілі да апошняга.

Падобная, калі не ідэнтычная, сітуацыя тычыцца гіпермаркетаў. Іх хуткае знішчэнне гэтак жа верагодна, як і верагодна, што першабытны чалавек спрыяў знікненню мамантаў. Калі гэтая тэорыя адпавядае рэчаіснасці, яна акажацца праўдзівай у пытанні: ці лішак спрычыняецца хаосу? Напрыклад, ці не лішак мозгу — прычына нашай чалавечай бяздумнасці? Мы купляем непатрэбныя тавары без умеранасці альбо дазваляем купляць нас без разбору: палітыкам, рэкламным абманшчыкам, банкам і хітрым СМІ. У нас няма ўмеранасці. Бо мы базіруем сваё існаванне на філасофіі празмернасці — лішку палітычных абяцанняў, незаслужаным роскавіце, нястрымных надзей і патрабавальных чаканняў. І мы ганарымся сваім мозгам, які з'яўляецца прапарцыйна самым вялікім з усіх іншых відаў на Зямлі. Самых вялікіх — праўда, але і самых марнатраўных. Зразумела, за выключэннем Альберта Эйнштэйна. Яго бліскучы мозг быў на 20% меншы за паўтара кілаграма ў сярэднім чалавеку, што даказвае, што лепш мець столькі, колькі трэба. Тут важна яшчэ адно пытанне: — Колькі каму трэба? Такім чынам, калі б мозг Эйнштэйна быў на 10% меншы, чым сярэдні, у нас не было б знакамітага ўраўнення $E = mc^2$. Ну і — ускосна — мабільных тэлефонаў, мікрахвалевых печак і камп'ютараў. Ну а калі б ён быў на 20% большы, ці былі б сёння інтэрнэт, GPS і іншыя лічбавыя тэхнічныя цуды? Цуды, бо да гэтага часу мы не маем над імі разумовага кантролю. Давайце прызнаем гэта сабе, мы выкарыстоўваем іх даволі бяздумна і не ўсведамляючы ў поўнай меры іх сілы, і падобна малпам, якія гуляюць з кубікам Рубіка, якую жвава кідаюць у пустую сцяну. Такім чынам, асноўнае пытанне вяртаецца: ці прыводзіць лішак да хаосу? Ці патрэбны спадару Лукашэнку, у якога вялікай галаве на 20% больш мозгу чым у Эйнштэйна, яго лішак? У рэшце рэшт, яму напляваць на знакамітае ўраўненне Эйнштэйна. Ён таксама не выступіць з новай тэорыяй адносная. І нават калі ён нешта прыдумае, дык як больш мучыць зямлякоў, як больш ім шкодзіць, як больш ім дапячы. Бо празмернасць, з якой невядома што рабіць, вядзе да псіхічнага хаосу, а той да ... крэцінізму. Ну, гэтага чалавечым мозгам не ахопіш.

❖Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Як перамагчы эпідэмію?

Раздажджылася. Восеньскі тыдзень з ападкамі і паніжанай тэмпературай загасцяваў у роднай прасторы. Напэўна гэта ўжо не час, каб выстаўляць свае твары да сонечных праменяў, ці лянiва блукаць па парках або лясных куточках. Цягне бліжэй хатняга цяпла і аблягчаючых прастудныя і дэпрэсіўныя настроі разагравальных напіткаў. І не маю тут на ўвазе гарачага піва ці віна, але адвараў са скарбаў нашай зямлі-карміцелькі. Рэшткамі памяці стараюся ўзгадаць са сваёй маладосці, якімі адварамі паіла нас, сваіх унукаў, бабуля ў розных хваробах, у тым ліку і грыпозных.Тут апрача складнікаў такіх адвараў, не менш важным для эфектыўнасці лячэння былі прапорцыі, спосаб, чарговасць і час падрыхтоўкі такой мікстуры. Гэтага аднак у маёй памяці не засталося і ўся зёлкавая ці раслінная тэрапія знікла, на жаль, з сямейнай спадчыны. Пра свет зёлкавага лячэння і спадарожныя яму абрады, магічныя замовы пішу невыпадкова ў кантэксце сусветнай пандэміі каранавіруса. З вялікай праўдападобнасцю можна меркаваць, што тыя асобы, якім перададзены лячэбныя, зёлкавыя таямніцы нашых бабуль і містычная малітоўная сіла, вараць нейкія мікстуры і дапамагаюць сваім блізкім у грыпе ці каранавірусных захворваннях. Напэўна і ўзнікаюць напіткі, якія павышаюць імуналагічную абараназдольнасць арганізма ў тых сімптомах, якія спадарожнічаюць пандэмічнай бядзе. Пішучы гэтыя словы, прыгадаліся мне і расказы пра тых людзей, якія змагаліся з рознымі бедствамі пры дапамозе грыбных лячэнняў. Прымяняліся грыбы тых гатункаў, якіх мы не збіраем для харчовых мэт. Дарэчы, апошняя даследаванні навукоўцаў гавораць пра станоўчыя вынікі тэрапіі на аснове грыбоў з Белавежскай пушчы ў змаганні з анкалагічнымі захворваннямі. Значыць, веды нашых продкаў знайшлі зараз пацвярджэнне ў клінічных лабараторыях. Таму не здзіўлюся, калі зараз на падляшскім куску свету пойдуць чуткі пра цудоўныя мікстуры, новых знахароў і паказныя аздараўленні. Пэўную частку гэтых людзей будуць прадстаўляць нейкія ашуканцы, што хочуць нажыцца на чалавечай бядзе, але я ўпэўнены, што многія звычайна ад сэрца і душы хочуць памагчы сваім аднапляменцам у бядзе. Ці ж малітва можа пашкодзіць у хваробе? — заўсёды трапна заўважае мой бацька, калі розныя малаверы крэцяць галавою наконт духоўнай падтрымкі ад свецкай асобы, але адоранай нейкай духоўнай сілай. Другая хваля каранавіруса, якая імкліва апынулася ізноў у сусветным кругазвароце, маментальна прыносіць узрост захворванняў і смярцей. Усе бездапаможна інфармуюць толькі пра нарастаючую статыстыку і баяцца гаспадарчага калапсу. Гнеў, голад і бяда, а затым нянавісць супраць багацейшых гэта ўжо не толькі кадры з кінастужак, але рэальнасць, якая можа выліцца на вуліцы нашых і замежных гарадоў. Існаванне дзяржаўных сістэм у дасюлешнім разуменні стаіць пад вялікім знакам запытання. Нябачнасць поспехаў у сусветным змаганні з кожным днём нясе з сабою што і раз большую колькасць людзей, якія не прызнаюць абмежаванняў грамадскай прасторы. У мінулую суботу мелі мы маршы пратэсту па ўсёй Польшчы, дзе людзі выступаюць супраць абавязковых масак і іншых антыковідных законаў. Менавіта так зараз выглядае, што не палітычнае супрацьстаянне, але стаўленне да каранавіруса з'яўляецца штораз большай лініяй падзелу польскага грамадства. Дарэчы, існуе еўрапейскі і сусветны рух непрызнання існавання эпідэміі, які ўспрымае яе як чарговы крок-інструмент на дарозе да пазбаўлення правоў чалавецтва свабоднага выбару і свайго, прыватнага ладу жыцця. Кожны мае права на свае погляды і пратэсты, але ўзрастаючы фактар чалавечых смярцей і жахлівых успамінаў тых, хто прайшоў цяжкія стадыі хваробы, гавораць нам пра патрэбу захавання здаровага сэнсу ў дзеяннях грамадзян, але таксама і дзяржава не павінна быць толькі адказнай за страх і пакаранне сваіх грамадзян. Як самі бачым і добра ведаем, у Польшчы зусім па-рознаму выглядаюць мерапрыемствы грамадска-палітычнага і рэлігійнага кшталту, а ўдзел у культурным жыцці. Няроўнасць перад законам ёсць і галоўнай асновай недаверу для патрабаванняў улад у сённяшняй сітуацыі

❖Яўген ВАПА

# Самыя слаўныя **гаспадары** з Падляшша

У дажджлівую вераснёвую нядзелю еду ў Плютычы да **Генка** і яго сына **Андрэя Карнілюкоў**. Яны, дзякуючы тэлеперадачы „Rolnicy. Podlasie" на тэлеканале Fokus, які аглядае ўвесь свет, зараз самыя папулярныя гаспадары на Падляшшы. Перад панадворкам спадара Генка і Андрэя многа аўтамашын. Пры самой хаце стаіць стол, на якім гарэлка, піва, закуска. Гэта самыя гарачыя фанаты тэлеперадачы „Rolnicy. Podlasie" прыехалі напіцца з самым славутым гаспадаром на Падляшшы Яўгенам Карнілюком. Яго сын Андрэй сядзіць цвярозы на сходках ганку ля хаты. Вакол яго многа людзей.



■ Яўген Карнілюк



■ Андрэй Карнілюк

**Юрка Буйнюк: — Спадар Яўген, я вялікі Ваш фанат. А таксама мае бацькі і ўсё Падляшша, што Вас глядзіць у тэлеперадачы.**

**Яўген Карнілюк:** — Ну і добра, няхай аглядаюць. Я стараюся, каб паказацца як найлепш, таму што тэлеперадача ідзе на ўвесь свет і трэба выглядаць у тэлебачанні як найлепш.

**— Як Вы трапілі ў праграму „Гаспадары. Падляшша"?**

**Андрэй Карнілюк:** — Быў я з сябрамі на абедзе ў сталоўцы. Там нас зачапіла нейкая жанчына і пытае: „Ці вы гаспадары?" Мы кажам, што так. Яна тлумачыць, што яна начальнік польскага тэлебачання, якое хоча запісваць праграму, але не ведаюць пра што. Гэта я падсунуў ім ідэю, каб зрабілі тэлеперадачу пра гаспадароў Падляшша. Начальнік тэлеканала Фокус пытае, ці можна прыехаць да нас у вёску з камерай і зрабіць перадачу. Мы з бацькам згадзіліся і так мы трапілі ў праграму «Rolnicy. Podlasie».

**Яўген Карнілюк:** — У рэдакцыі быў круглы стол. Мелі ліквідаваць тэлеканал Fokus, таму што была вельмі нізкая аўдыторыя гледачоў. Мой сын падсунуў ім ідэю зрабіць перадачу пра гаспадароў з Падляшша. Начальнікі тэлебачання Фокус зусім не спадзяваліся, што тэлеперадача «Rolnicy. Podlasie» стане хітам гэтага года. Яны цешацца, што тэлеканал Фокус надалей існуе, а мы цешымся, што нас паказваюць у тэлебачанні.

**— Можна сказаць, што Ты быў ініцыятарам праграмы «Rolnicy. Podlasie»?**

**Андрэй Карнілюк:** — Хіба так, а ўсё гэта атрымалася выпадкова і ў выніку атрымаўся вялізны хіт польскага тэлебачання. Цяпер тэлебачанне не дае нам спакою, паколькі мусім запісваць новыя серыі гэтай перадачы. Яны думалі, што пусцяць адну пробную серыю і ніхто не будзе глядзець гэтага. А тут атрымалася, што перадачу глядзяць людзі з усяго свету.

**Яўген Карнілюк:** — Як яны ўпершыню прыехалі запісваць з намі першы адрэзак перадачы «Гаспадары. Падляшша» дык журналісты не ведалі да чаго патрэбны мае сельскагаспадарчыя машыны.

**— Не наракаеце на папулярнасць?**

**Яўген Карнілюк:** — На папулярнасць я не наракаю. За адзін дзень маё гаспадарства наведвае ад пяцідзесяці да ста асоб.

**— Скуль прыязджаюць да Вас турысты?**

**Яўген Карнілюк:** — З усяго свету. Былі з Фінляндыі, са Швецыі, Нарвегіі, Італіі. Былі нават школы — мужчыны ў каляровых спадніцах.

**Андрэй Карнілюк:** — Уся Польшча ўжо нас наведала. Найдалей былі дзве польскія сям'і з ЗША. Было вельмі многа турыстаў, напрыклад, з Майоркі, з Іспаніі.

**— На якой мове размаўляеце з імі?**

**Яўген Карнілюк:** — Яны заўсёды маюць свайго перакладчыка.

**— А людзі з вёскі не зайздросцяць Вам славы, што Вас з сынам паказваюць па спадарожнікавым тэлебачанні, якое вяшчае на ўвесь свет?**

**Яўген Карнілюк:** — Хто хоча зайздросціць, няхай нам зайздросціць. Я скажу адно, што я добры чалавек і сваёй цяжкай працай дайшоў да так вялікай гаспадаркі. Гадую трое дзяцей (двух сыноў і дачка), маю зяця, унукаў. Можа і нявестак дачакаюся. І так жыву.

**— Вы сказалі пра нявестку. А калі вяселле ў Андрэя?**

**Яўген Карнілюк:** — Што будзе вяселле дык мы ведаем на 99 працэнтаў. Мой сын Андрэй мае нарачоную, з якой ён заручаны і неўзабаве згуляем вяселле. Мая будучая нявестка казала, што хоча выйсці замуж за майго сына Андрэя. А як будзе, пакажа час.

**— Андрэй, ці пасля тэлеперадачы шмат дзяўчат адгукнулася на фейсбуку?**

**Андрэй Карнілюк: —** Дзяўчат на фейсбуку вельмі многа да запрашэння. Дзяўчаты вельмі часта пішуць, што хочуць прагуляцца па вёсцы. Я ім адпісваю, што не маю часу, таму што ў мяне вялікая гаспадарка і вельмі многа працы. Шчыра кажучы, я зараз заручаны з адной дзяўчынай.

**— Ці Вы ніколі не шкадавалі, што трапілі да тэлеперадачы „Гаспадары. Падляшша"?**

**Яўген Карнілюк:** — Я ніколі не шкадую. Людзі прыязджаюць да мяне з усяго свету, тэлебачанне плаціць ганарары. Нам тэлебачанне купіла сельскагаспадарчую машыну «талежувку», сыну купілі аўтамашыну. І ўсё ёсць *элегантна.* Мы задаволены, што выступаем у тэлебачанні. Журналісты з тэлебачання проста *прыма сорт.* Таксама маю сініх кароў.

**— У чым сіняя карова лепшая за карычневую ці чорную?**

**Яўген Карнілюк:** — Каровы сіняй пароды — універсальныя. Яны падыходзяць на цялят, мяса, малако, растуць вялікія. Ніхто ў Польшчы не мае такой пароды кароў.

**— Колькі каштуе сіняя карова ў Вас?**

**Яўген Карнілюк:** — Як з цяляткам дык трэба заплаціць дзесяць тысяч злотых.

**— Маеце яшчэ вельмі прыгожых коней...**

**Яўген Карнілюк:** — Коні як коні. Я вельмі стараюся як найлепш іх дагледаць.

**— Колькі ў Вас каштуе конь?**

**Яўген Карнілюк:** — Добрага каня прадам за дзесяць тысяч злотых.

**— Дык гэта добры бізнес.**

**Яўген Карнілюк:** — Бізнес як бізнес.

**— Колькі гектараў зямлі апрацоўваеце?**

**Яўген Карнілюк:** — Пяцьдзясят гектараў. Маем трыццаць сваіх гектараў, а дваццаць арандуем.

**— Дык многа маеце зямлі. Вы багаты.**

**Яўген Карнілюк:** — Ай там, багаты. З мяне ў сам раз хапае.

**— Андрэй, колькі сееш збожжа?**

**Андрэй Карнілюк:** — Збожжа сею больш-менш дваццаць гектараў. Маем 13 уласных гектараў, на даплаты 23 гектары, а разам абрабляю 50 гектараў. Калі апрацоўваю поле з чатырох вёсак, дык вядома, што з кожнага не магу ўзяць даплат. Адны людзі аддаюць зямлю, каб поле не зарастала зеллем, а другія хочуць, каб я рабіў іх зямлю, а яны бралі даплаты. Тлумачаць, што ім не аплачваецца, а як я вазьму дык ім будзе найлепш. Завязу жыта на скуп, прадам сто кілаграмаў па 40 злотых, а скуп прадасць гаспадарам ужо па 60 злотых і палову заробіць на мне.

**— Ці даплат на Вашу гаспадарку хватае?**

**Андрэй Карнілюк:** — Даплаты з Еўрасаюза вельмі многа нам дапамагаюць. Хаця я хацеў бы, каб напрыклад за кілаграм бычка давалі 10 злотых а не 5,50. За 30 месяцаў гадавання бычка дастаў 2050 злотых. А калі пойдзеш на працу ў горадзе, дастанеш прынамсі 3 тысячы злотых у месяц.

**— Андрэй, Ты не думаў кінуць гаспадарку і выехаць жыць і працаваць у горадзе?**

**Андрэй Карнілюк:** — Я са сто разоў думаў кінуць гаспадарку, але, вядома, я не навучаны жыць у горадзе. Калі пойдзеш жыць у горад, дык трэба ад разу мець працу. Мне лепш было б, калі б пайшоў на працу на восем гадзін удзень і што месяц была б зарплата. А на вёсцы зарплата тады, калі Еўрасаюз дасць даплаты.

**Яўген Карнілюк:** — Колькі Андрэй з Еўрасаюза мае, дык няхай мае. А я як пенсіянер магу нічога не рабіць, таму што маю пенсію з KRUS і з мяне дастаткова хапае. Пакуль жыву, хачу дапамагчы сыну пры гаспадарцы.

**— Тэлебачанне паказала, як Ты з бацькам сварышся на роднай падляшскай мове. Як рэагуюць на гэта Вашы паклоннікі?**

**Андрэй Карнілюк:** — Гэта атрымалася выпадкова. Я тады думаў, што тэлебачанне мае выключаныя камеры і так пайшло.

**Яўген Карнілюк:** — Агульна кажучы, людзям наша мова падабаецца.

**— У першай серыі Вы выступілі разам са сваім сябрам Мікалаем з Чарэўкаў, які прыйшоў купіць качку, каб зрабіць рамантычную вячэру для сваёй жонкі...**

**Яўген Карнілюк:** — Памёр, чатыры месяцы таму назад яго пахавалі...

**— Сапраўды? Я ж з ім працаваў...**

**Андрэй Карнілюк:** — Ён цераз гэтую тэлепраграму пачаў вельмі моцна выпіваць. Да яго яшчэ больш паклоннікаў прыязджала, чым да нас. Па гэтай прычыне ён распіўся і памёр.

**— Дык вельмі Вам спачуваю. Гэта быў вельмі добры чалавек. Я вельмі прыемна яго ўспамінаю.**

**Яўген Карнілюк:** —А што я яму дрэнную жонку знайшоў? Жанчына з характарам.

**— Таксама ў першай серыі ўкралі ў Вас паліва да трактара. Ці паўтараліся такія сітуацыі?**

**Яўген Карнілюк:** — Нас абакралі і то не раз. Таксама і штучныя ўгнаенні (салетру) укралі, але як укралі дык нам хутка прывезлі.

**— Вы ў праграме рэзалі ручною пілою дрэвы ў лесе, якую Вы пазычылі ў свайго хрышчонага. Ваш сын Андрэй наракаў, што больш стаміўся, чым пры выкідванні гною з хлява на воз...**

**Яўген Карнілюк:** — Гэта было роблена пад тэлебачанне. Насамрэч я маю дзве вялікія бензапілы. А ручную пілу я пазычыў у хрышчонай, якой хата праз вуліцу напроціў нас

**— Ізноў едуць да вас новыя госці. Сёння вялізны рух у Вас...**

**Андрэй Карнілюк:** — Першапачаткова прыязджалі да нас людзі, якія былі пад уплывам наркотыкаў ці турэмшчыкі. Мы мусілі званіць на паліцыю...

**— Але зараз толькі піва п'юць...**

**Андрэй Карнілюк:** — Зараз у нас сфармавалася сталая экіпа добрых фанатаў, якая адведвае нас кожную нядзелю. Я маю так многа працы, што не маю часу сядзець дома. Сёння дождж падае, а так я цэлы час працую ў полі. Я не супраць, каб людзі прыязджалі да нас у Плютычы, няхай едуць да нас.

**— Андрэй, бачу на фейсбуку, што Ты ў свабодны час любіш лавіць рыбу?**

**— Андрэй Карнілюк:** — Я фанат беластоцкага футбольнага клуба «Ягелонія». Адносна рыбы дык я яшчэ большага шчупака злавіў, чым той на фатаграфіі ў фейсбуку.

**— Колькі кілаграмаў?**

**Андрэй Карнілюк**: — Пятнаццаць.

**— Дзякую вам за размову і жадаю, каб Вы як найдаўжэй выступалі ў праграме «Rolnicy. Podlasie» на тэлеканале Fokus.**

Размаўляў
**Юрка Буйнюк**

# «І тут жывуць людзі» ў Жуках

Белфэсты з цыкла «І тут жывуць людзі» Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы пачаў арганізаваць у 2009 годзе з думкай пра жыхароў невялікіх вёсачак і насельніцтва вялікіх сёл, у якіх даўно не арганізавалася беларускае музычнае мерапрыемства. Трымаючыся ў галоўным гэтай ідэі было наладжаных звыш сямідзесяці белфэстаў, а апошні адбыўся 20 верасня ў Жуках Кляшчэлеўскай гміны. На музычнае беларускае мерапрыемства зышліся жыхары вёскі, у асноўным пенсіянеры. Да іх у госці прыехалі з гарадоў дзеці і ўнукі, а калі мерапрыемства было ў разгары публіку папоўніла моладзь з суседніх вёсак. Відаць было, што белфэст захапіў публіку.



■ Калектыў «Давід Шымчук Бэнд» з Гайнаўкі





■ Белфэст пачаўся даўнімі песнямі ў выкананні калектыву з Дабрывады



■ Вакалістка Марыёля Герман-Пятручук

Гарадскі асяродак культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях, які дапамагаў зладзіць мерапрыемства, спачатку планаваў прывесці фэст у прыгожа адрамантаванай святліцы. Аднак пасля поўдня стала цёпла і сонечна і арганізатары белфэсту рашылі наладзіць яго побач будынка святліцы. Замест сцэны на траву былі пакладзены пакрывалы, а на іх былі расстаўлены мікрафоны. Гэта стварала атмасферу з мінулага. Да мінулага адклікаліся таксама песні ў новай аранжыроўцы і найчасцей на фоне меладычнай музыкі. Белфэст пачаўся даўнімі песнямі ў выкананні калектыву з Дабрывады, якая была вельмі расспяванай вёскай.

— Цяпер мы мала спяваем перад публікай, але калі запрасілі нас выступіць на беларускім фэсце, мы згадзіліся. У мінулым мы вельмі многа спявалі, у нас былі моцныя галасы. Зараз паяўляюцца складанасці, — сказала Ніна Яўдасюк з Дабрывады. — Я родам з Войнаўкі Дубіцкай гміны. З сентыментам успамінаю той час, калі я жыла ў роднай вёсцы. У Войнаўцы менш спявалі, але калі я ў 1963 годзе выйшла замуж у Дабрываду, тут убачыла расспяваную вёску. Наш калектыў быў заснаваны яшчэ ў шасцідзясятых гадах, але я пачала ў ім спяваць ужо ў сямідзясятых гадах. Так хутка мінуў час і яшчэ прыходзіцца спяваць у калектыве. Трымаемся свайго даўняга рэпертуару, аўтэнтычных песень без апрацоўкі, паколькі так прапанавалі нам спяваць інструктары Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку. Раней мы вельмі многа выступалі на фестывалях «Беларуская песня» і ў катэгорыі аўтэнтычнага фальклору найчасцей займалі першыя і другія месцы. Выступалі таксама на шматлікіх фэстах і музычных мерапрыемствах. Зараз у Дабрывадзе паказваем, як спявалі ў мінулым. Нам прапануюць запрэзентаваць традыцыйныя абрады, што мы і робім.

Пасля выступлення калектыву з Дабрывады белфэст адкрылі дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк і бургамістр Кляшчэляў Аляксандр Сяліцкі, які падкрэсліў значэнне ідэі беларускіх фэстаў з цыкла «І тут жывуць людзі». Бургамістр звярнуў увагу, што з фэстамі можна было б наведаць жыхароў іншых вёсак у Кляшчэлеўскай гміне, у якіх апошнім часам не ладзіліся музычныя мерапрыемствы. Дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк коратка распавёў пра гісторыю белфэстаў з цыкла «І тут жывуць людзі», якія арганізуюцца з 2009 года. У Жуках быў наладжаны 74 беларускі фэст, які быў чацвёртым у гэтым годзе.

— У гэтым годзе з-за эпідэміі каранавіруса не маглі мы арганізаваць фэстаў вясной і ў першай палове лета. Першае мерапрыемства наладзілі мы ў канцы жніўня ў Макаўцы. Пасля арганізавалі белфэсты ў Пасечніках-Вялікіх і Баб'ій Гары. Вёскі, у якіх ладзім беларускія фэсты, прапануюць або гмінныя ўлады або самі жыхары сёл. Бывае, што шлюць просьбы непасрэдна ў наш музей. Ёсць у нас нават пастаянная публіка, якая ездзіць на нашы белфэсты ў розныя вёскі, — сказаў дырэктар Тамаш Ціханюк і дабавіў, што суарганізатарамі музычнага мерапрыемства ў Жуках з'яўляецца Гарадская ўправа ў Кляшчэлях і тамашні Гарадскі асяродак культуры, спорту і рэкрэацыі.

— Паколькі вясной і ў першай палове лета не арганізаваліся беларускія мерапрыемствы, людзі цяпер больш масава прыходзяць на нашы фэсты і актыўна ўключаюцца ў іх ход, спяваюць разам з калектывамі і танцуюць перад сцэнай. Мы прапануем удзельнікам мерапрыемстваў купляць беларускую літаратуру, магніты з беларускімі арнаментамі, гліняны посуд і іншае рукадзелле. У гэтым годзе ўсе нашы беларускія фэсты былі шматлюднымі, а для іх наведвальнікаў прапануем фотавыставу з ранейшых выпускаў нашага мерапрыемства з цыкла «І тут жывуць людзі», — гаварыла Агнешка Ціханюк з Гайнаўскага белмузея.

Займальна выступіў калектыў «Давід Шымчук Бэнд» з Гайнаўкі. Вылучаецца ён сярод іншых калектываў большай колькасцю членаў і акампанементам шматлікіх музычных інструментаў. Цікава запрэзентаваліся таксама гайнаўскі калектыў «Метро» і калектыў «Родны кут» з Нарвы.

— Мы ў гэтым сезоне зноў сталі выступаць з нашымі вакалісткамі і я рады вяртанню да папярэдняга складу. Папраўдзе нашы выступы перад публікай пачаліся ў другой палове сезона, але добра, што паявілася такая магчымасць, паколькі гэта дае большую энергію для далейшай актыўнасці, — заявіў Ян Снарскі, лідар калектыву «Родны кут» з Нарвы, які паўстаў на аснове гурта «Арт-Пронар». Вакалістка Марыёля Герман-Петручук удала выступала ў калектыве «Арт-Пронар» і прадоўжыла выступы з гуртам «Родны кут». Аднак вядомая яна публіцы фэстаў «І тут жывуць людзі» перш за ўсё з-за канферансу.

— Паміж арганізатарамі фэстаў «І тут жывуць людзі», мной — вядучай амаль усіх фэстаў і членамі калектываў, якія найчасцей выступаюць на белмузейных мерапрыемствах, стварылася сямейная атмасфера. Калі з вясны амаль да канца жніўня быў доўгі перапынак з-за эпідэміі каранавіруса, не хапала нам супольных выездаў і выступаў. Бачу, што публіка радуецца, слухаючы беларускія песні, вельмі эмацыйна ўспрымае выступы нашых калектываў, — сказала Марыёля Герман-Петручук.

— Бачу, што прысутнічаюць таксама жыхары суседніх вёсак, што стварылася добрая атмасфера. У нашай гміне здаўна ладзяцца беларускія фэсты з цыкла «І тут жывуць людзі», па адным у год. Ва ўсіх вёсках, дзе ёсць святліцы і ў выпадку дажджу можна туды перанесці мерапрыемства, былі ўжо арганізаваныя такія фэсты. У гэтым годзе была добрая нагода арганізаваць фэст у Жуках, паколькі нядаўна была тут адрамантавана святліца, — патлумачыла выконваючая абавязкі дырэктара Гарадскога асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях Яўгенія Казімірук.

У гэтым годзе ў час пленэрных белмузейных мерапрыемстваў ладзяцца конкурсы і трэба адказваць на пытанні па гісторыі белфэстаў з цыкла «І тут жывуць людзі». Так было таксама ў Жуках. Асобы, якія правільна адказалі на пытанні, ва ўзнагароду атрымалі граблі, матычку, вядро і палівачку для кветак або агародніны. У час мерапрыемства збіралі ў скарбонку грошы на лячэнне Якуба з Гайнаўкі (такая дабрачынная акцыя праводзіцца на многіх імпрэзах у Гайнаўскім і суседніх паветах).

Паводле перапісу насельніцтва ў 1921 годзе ў Жуках у 27 дамах жыло 96 чалавек, якія дэкларавалі прыналежнасць да праваслаўнага веравызнання і беларускай нацыянальнасці. Зараз у вёсцы жыве звыш трыццаці чалавек.

— Мы лічым сябе беларусамі і рады, што сёння адбываецца беларускі фэст у нашай вёсцы Жукі. Ён дае нам магчымасць адарвацца ад звычайнага жыцця і супольна паслухаць нашы песні. Раней увогуле ў нас не было месца да супольных сустрэч, але купілі мы стары будынак і з яго збудавалі святліцу. Пасля рамонту стала яна прыгожай і цяпер можна будзе ў ёй ладзіць больш імпрэз, — сказала солтыс Жукоў Лідзія Голуб. — Зараз у Жуках жывуць перш за ўсё пенсіянеры, сярод якіх шмат асоб ва ўзросце больш за восемдзесят, а нават дзевяноста гадоў. Ёсць яшчэ 4 малодшыя сям'і, якія самі абрабляюць палі і жыве адно дзіця ў школьным узросце. Мае дзеці, як і дзеці многіх іншых старэйшых жыхароў нашай вёскі, жывуць у гарадах, але прыязджаюць у Жукі і тут абрабляюць свае палеткі, сеюць авёс, трыцікале, грэчку... Землі ў нас наогул слабейшай якасці, пятага і шостага класаў, таму і плён з іх невялікі. У мінулым прыбытак быў з гадоўлі кароў і свіней, што спынілася. Гадуюцца ў нас толькі дзве каровы, а для гадоўлі свіней трэба стварыць многа забяспячэнняў, чаго мы не ў змозе выканаць. Яшчэ нашы гаспадыні гадуюць крыху курэй на свае патрэбы.

На тварах сабраных каля святліцы было відаць радасць. Маглі ж паслухаць родныя песні і паглядзець займальныя выступы. Солтыс Жукоў Лідзія Голуб дабавіла, што музычнага мерапрыемства ў Жуках ужо даўно не было і таму белфэст «І тут жывуць людзі» выклікаў такое зацікаўленне ў мясцовай публікі.

Тэкст і фота **Аляксей МАРОЗА**

# Давалі ў крэдыт



Цэнтр Орлі каля 2000 года: жыдоўскія мураваныя будынкі адбудаваныя пасля пажару ў 1938 годзе. На другім плане — з высокім комінам і гняздом — будынак былой пякарні жыда Ізбуцкага. Пасля вайны будынкі пякарні і гасподы ГСу.

Некаторыя хрысціяне, што не любілі жыдоў, прыпісвалі ім, несправядліва, шмат чужых ім прымет. Такія суджэнні, хаця недарэчныя, замацаваліся і паўтараюцца бяздумна ў сучаснай публіцыстыцы. Аналізуючы сабраны мною багаты мемуарны матэрыял аб арлянскіх жыдах, магу многія з іх абвяргнуць. Гісторыі, так як і жыдам, належыцца праўда. У гэтым артыкуле выкажуся на тэму г.зв. ліхвярства.

Не праўдай, а выдумкай з'яўляецца погляд, што жыды займаліся ліхвярствам, г.зн. пазычаннем грошай на працэнт. Не пацвярджае гэтага ніводзін з сабраных мною дзясяткаў успамінаў найстарэйшых жыхароў. Жыды неаднаразова дапамагалі хрысціянам у жыцці, ратавалі ім здароўе і жыццё. Арлянскія жыды давалі ў крэдыт, напрыклад, лякарствы ў аптэцы і прыватна, давалі ў крэдыт пры пакупках у прадуктовых і тэкстыльных крамах, напрыклад, у выпадку неабходнай патрэбы.

Пазыкі ў Орлі даваў Жыдоўскі народны банк, якімі маглі карыстацца і хрысціяне, напрыклад, будуючы дом.

**Успамін Аляксандры ДЭМБАРОГ з роду Цвяцінскіх (1914-2017):**

— Арлянскія жыды мелі такі добры падыход — кожны, хто да іх зайшоў і нешта папрасіў, атрымліваў ад іх дапамогу. Менавіта жыды найбольш нам — гоям, як нас называлі — дапамагалі. Жыд не адмаўляў, даваў, што ад яго хацелі, але пасля ішоў на вёску да таго, хто ў яго прасіў і браў сабе тавар: яйкі, бульбу, збожжа. Не было таго, што маем цяпер, што я — паляк, а ты — рускі. Усе былі сабе роўнымі, усе былі дружныя.

**Успамін Уладзіміра ЗДАНОВІЧА (1921-2007):**

— Земляробствам займаліся толькі дзве жыдоўскія сям'і — Вэльвель Ходак і Шэпо Кноразоўскі (жылі побач сябе па вуліцы 1 Мая ў бок Кашалёў). Астатнія жыды называлі іх нямудрымі, гоямі. Той Вэльвель купляў кожны кусок поля, гаварыў, што зямля есці не просіць. [Паводле Лявона Мураўскага, 1930 года нараджэння, жыдоўскія земляробы пасля вялікага пажару Орлі намаўлялі: «Ну, купляй зэмлю, зэмля нэ згорыт».]

**Успамін Галены КУБАЕЎСКАЙ з роду Шайкоўскіх (1916-2013):**

— Жыдоўскія гандляры не былі дрэннымі, давалі тавар у крэдыт, бо ў нашых людзей часта не хапала грошай. Памятаю, што ва ўзросце 17 гадоў я так наелася гароху, што захварэла на *холерыну*. Мой старэйшы брат пайшоў ноччу да жыда Шэршэня, які жыў побач царквы (меў сваю пякарню). Той даў брату лякарства на спірце і я тым прэпаратам вылечылася.

**Успамін Зінаіды НЯДЗЕЛЬСКАЙ з роду Карач (1916-2001):**

— Калі была бяда, то ішлося да жыда, нават сярод ночы. Калі былі патрэбны грошы, то ад яго можна было атрымаць пазыку. Сумленны чалавек заўсёды мог разлічваць на іхнюю дапамогу. Вельмі іх шкадую — гэта былі вельмі добрыя людзі.

Калі я 10 студзеня 1936 года выходзіла замуж, то ў нас дома не было нічога нарыхтаванага, паколькі былі ў мяне старэйшыя сёстры і мама не спадзявалася, што я так хутка пайду з дому. Пайшла тады маці да жыдоўкі Добы, якая ў рынычку трымала краму з тканінамі; і атрымала ў крэдыт капы, палатно, ручнікі, прасціradла і іншае. Восенню мама прадала гусей і вярнула доўг.

А па вуліцы Маёвай жыла ўдава Гана, жыдоўка. Калі мне зімой патрэбны былі валёнкі і галёшы, а якраз не было грошай, тады яна дала мне іх, і панчохі ў крэдыт, а пазней муж зарабіў грошы ў кафлярні і заплаціў.

Жыды не былі дрэннымі, толькі мы, калі былі дзецьмі, крыху ім дакучалі.

**Успамін Таццяны ДАНІЛЮК з роду Калешук (1911-1996):**

— У міжваенны перыяд служыла я дзесяць гадоў на арлянскай плябаніі ў айца Уладзіміра Вішнеўскага, а на лета вярталася дадому ў Малінніккі, бо там чакала многа работы на гаспадарцы. Служыла я да выезду башюшкі Вішнеўскага ў красавіку-маі 1939 года ў Францыю.

Бацюшка трымаў карову. Я даіла яе, а рацімі малако брала жыдоўка, якая прадавала яго іншым жыдам. За пакупкамі хадзіла я ў жыдоўскія крамы. У іх прадавалі на крэдыт, запісвалі ў кніжкі, а матушка запісвала і ў сябе, што я купіла. То прадаўшчыца, жыдоўка Мушка заўсёды штось дапісвала, хаця на дробную квоту, напрыклад, дрожджы. Матушка пасля звяртала ёй увагу: «Вы ошибаетесь...».

Печыва куплялі ў пякарні жыда Ізбуцкага. Калі прыходзіў месячны разлік, то выносіў нам яшчэ ў гасцінец вялікую булку. І ніколі з ім не праспрачаліся, у яго ўсё згаджалася.

**Успамін Аляксея ШАЙКОЎСКАГА (1921-2008):**

— Аддаюць тыя даўгі, аддаюць, аж у рэшце рэшт паспрачаюцца. Жыды мелі такую пагаворку: «Калі бяда, то да жыда, а па бядзе — у ср... пацалуй жыдзе». Кожны стараўся аддаць доўг сумленна, бо калі не, то наступным разам ужо не пазычыш.

**Успамін Любы СТЭПАНЮК з роду Казлоўскай (1922-2017):**

— На месцы сённяшняй прыцаркоўнай стаянкі ў даваенны перыяд была жыдоўская аптэка (Мозеса Рабіновіча — М. М.). Аптэкары былі добрыя і спагадлівыя. Бывала, зойдзеш да іх з болем ног (людзям найчасцей дакучаў раматус) і тады аптэкарка, якая добра ведала рускую мову, гаварыла: «Я вам сделаю состав». Іншым разам давала на *обар*.

Жыды мелі свой хаўрус, куды збіралі грошы на выпадак няшчасця. Мелі таксама сваю касу — быў гэта банк Стэфчыка. Тым банкам карысталіся таксама хрысціяне. Калі мой бацька Мікалай будаваў дом, то там браў пазыку. Жыды ахвотна давалі ў доўг, бо з гэтага мелі працэнты. Жыдам залежала, каб людзі бралі пазыкі, а з вяртаннем даўгоў яны ўмелі спраўляцца.

**Успамін Наташы КАМАРЧУК, у дзявоцтве Пятроўскай (1905-1997):**

— Жыды былі культурнымі людзьмі. Я табе скажу: жыды былі лепшыя за нашых, хрысціян; нашы то сволачы. Ідзі до нашого, коб уміраў ты, то гроша нэ позычыт. А зайды до жыда — достанэш грошы. Але каждому нэ, хто злодзей, которы нэ оддаў, то і другі нэ дасть. Жыд так говорыў: «Вуон ужэ раз мэнэ набраў, а буольш ужэ нэ набэрэ».

**Любілі грошы**

**Таццяна ДАНІЛЮК:**

— Багатыя жыды трымалі з сабою кампанейскія кантакты. Жонка аптэкара была з Вайштынаў (сям'і фабрыкантаў), вельмі добра размаўляла па-расейску. Служанкай у іх была нейкая Вікторыя і аднойчы яна захварэла. Жыды вельмі хацелі, каб я яе заступіла. Была я там тыдзень. Гаспадары мелі хлопца Абрашку, які пастаянна хваліўся: «О, багаты! Сёння многа мы ўтаргавалі. Я багаты, багаты!»

Жылі мы ў Маліннніках, але ў царкву наша сям'я хадзіла ў Орлю, бо было бліжэй чым у Падбелле, дзе была наша прыходская царква. Калі тата завёў нас да споведзі, то пасля ішлі мы да жыда Шэршэня — побач царквы меў пякарню і сталовую — на печанага селядца.

Жыды былі людзьмі гасціннымі. Бывала, што прыходзілі мы з вёскі на ўсяночную службу, а пякарня была адкрыта і ўначы, палілі там і было цёпла. «Заходьтэ, заходьтэ і погрэйтэся», — запрашаў заўсёды жыд Шэршэнь. Яны заўсёды паводзілі сябе так, каб людзі іх любілі, бо ж менавіта з тых людзей яны ўтрымліваліся.

**Аляксандра ДЭМБАРОГ:**

— Наш бацька Аляксандр Цвяцінскі на сваім участку меў невялікую бойню і гасподу, у якую найчасцей заходзілі работнікі кафлярні. Жыд і калегі часта бралі з сабою балалайку і забаўлялі ўсіх спевам: «Kto dużo ma monety,/ tego uwielbia świat,/ kochają go kobiety/ i każdy mu jest rad./ Najgorsza rzecz na świecie,/ gdy gotówki brak,/ stary, młody wiekiem...»

**Галіна БАГАЦЭВІЧ з роду Адзіевіч (1925-2013):**

— У арлянскіх жыдоў былі дзве партыі: бедныя то *голуцы*, а багатыя — *байтары*.

**Наташа КАМАРЧУК:**

— Жыды мелі долары, а золата трымалі ў рускіх чырвонцах з царскага часу. З аднаго такога чырвонца можна было выканаць два тоўстыя пярсцёнкі. У Орлі мелі мы жыдоўскага ювеліра, пазалотніка, а таксама жыдоўскі народны банк.

**Цімафей ВАЛАСОВІЧ з Кашалёў (1921-2011):**

— Арлянскія жыды былі бедныя і багатыя, але ўсе яны былі вельмі ашчадныя, лічыліся з кожным грошам.

**Уладзімір ПАСЕЧНІК, 1929 года нараджэння:**

— Пасля пажару 18 мая 1938 года жыды мармыталі: «Усё згорэло, грошы згорэлі...».

Запісаў, апрацаваў і сфатаграфаваў **Міхал МІНЦЭВІЧ**

## Актыўны гурток ПСН

Актыўна працуе Павятовы гурток Польскага саюза невідушчых у Гайнаўцы. Узначальвае яго Аліцыя Пліс. Дзейсна дапамагаюць старшыні яе намеснік Януш Пух і члены праўлення Дарота Крулікоўская-Лапінская (сакратар), Эва Барысавец (скарбнік) і Мікалай Янкоўскі. У гуртку 48 членаў. У ім ёсць асобы з Гайнаўкі, Белавежы, Дабрывады, Кляшчэляў, Лешукоў, Нараўкі, Нарвы і Новага Ляўкова. Ён адзін з трынаццаці ў Падляшскім ваяводстве.

Невідучыя і слабавідучыя ладзяць сустрэчы з розных нагод. Святкуюць перш-наперш Дзень белай палачкі, ездзяць на краязнаўчыя экскурсіі ў цікавыя мясціны нашай краіны, арганізуюць рэйды па Белавежскай пушчы, паездкі ў кіно, тэатр і оперу ў Беластоку, у памяшканні свайго бюро дэманструюць найбольш цікавыя для сябе кінафільмы. Усёй грамадой ходзяць на аўтарскія сустрэчы ў Гарадскую бібліятэку або ў Дом настаўніка ў Гайнаўцы.

Варта дадаць, што гурток ПСН вядзе прыгожую хроніку сваёй дзейнасці і ў ёй шмат маіх допісаў, надрукаваных у беларускім штотыднёвіку „Ніва".

З кастрычніка гэтага года члены гайнаўскага і бельскага гурткоў ПСН ездзілі агледзець вялікі гадавальнік дрэў і дэкаратыўных кустоў у Грабаўцы каля Бельска-Падляшскага. Ёсць тут сотні і тысячы саджанцаў шматлікіх парод лістаых і хваёвых дрэўцаў. Цікава было паслухаць аповед лесніка і пабачыць, як растуць і развіваюцца саджанцы ў тунэлях і на вялікай шматгектаровай плошчы. Тут вялікі выбар і можна было іх купіць.

Пасля экскурсіі па „агародах" быў супольны абед пад прыстрэшкам і пры вогнішчы. Усе з зацікаўленнем выслухалі інфармацыю, якія навейшыя дапаможныя прылады могуць цяпер купіць сабе невідучыя. Была музыка і танцы. Спонсарам мерапрыемства з нагоды Дня белай палачкі была Гарадская ўправа ў Гайнаўцы. Пад вечар усе вярталіся дадому задаволеныя.

Неўзабаве зноў будзе сустрэча. 16 кастрычніка г.г. Гарадская публічная бібліятэка ў Гайнаўцы запрашае на сустрэчу з псіхолагам і грамадскай дзяячкай Ганнай Пастарны. Гэтае мерапрыемства ладзяць у Доме настаўніка, бо ў гарадской бібліятэцы мала месца.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Найпрыгажэйшыя ўчасткі

Уладальнікі садова-агародных участкаў маюць у Гайнаўцы тры вялікія агароды. Адзін з іх — Сямейны ўчастковы агарод „Падляшша". Ён за горадам і пад лесам Белавежскай пушчы. Агарод налічвае 355 участкаў. Праўленне СУА „Падляшша" ад васьмі гадоў узначальвае Аляксандр Лейчук (ён ураджэнец Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны). У канцы верасня г.г. гайнаўскія „участкоўцы" з вялікага Агарода „Падляшша" традыцыйна святкавалі свой дзень.

Сёлета ў конкурсе „Найпрыгажэйшы ўчастак у 2020 годзе" камісія прызначыла ўзнагароды для 15 уладальнікаў участкаў. Найпрыгажэйшы — паводле конкурснай камісіі — быў участак Яўгеніі і Яўгена Ахрымюкоў і толькі яны атрымалі грашовую ўзнагароду.

Вылучэнні атрымалі Валянціна і Віктар Байко, Славамір Філіновіч, Ірэна Гжэськевіч, Анна Чурак, Збігнеў Пухальскі, Войцех Матавіцкі, Юзэфа і Станіслаў Коскі, Рыгор Зялінскі, Эмілія і Марыюш Леўчукі, Бажэна і Юзэф Баравыя, Аліна Куроўская, Яўгенія Яўдосюк, Бажэна і Андрэй Ваўжыняк і ды Уладзімір Ляшчынскі. Вышэйзгаданым асобам уручылі прыгожыя дыпломы, адну грашовую і рэчавыя ўзнагароды. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Па жыдоўскіх слядах...



16 верасня 2020 года на ўроку гісторыі і культуры мы пайшлі на шпацыр. Спачатку зайшлі пад помнік Вялікай сінагогі, дзе чакаў нас Дарыюш Шада-Бажышкоўскі. Расказаў нам яе гісторыю. Мы пабачылі там каркас купала сінагогі. Затым пайшлі на Рынак Касцюшкі і многа даведаліся пра мову эсперанта і яго творцу Людвіка Заменгофа. Пачулі таксама пра Іцхака Малмеда і пабачылі месца яго смерці. Потым мы прайшлі побач рэдакцыі «Нівы» і пабачылі месца, дзе калісьці па вуліцы Зялёнай стаяў дом Заменгофа. Цяпер можна там пабачыць графіці на сцяне блёка. Калі затрымаліся побач басейна, пачулі гісторыю хлопца — Мішкі. Яго так назвалі расейскія салдаты, бо выглядаў як мядзведзь. Ён быў жыдам, уцёк ад немцаў і жыў у лесе з ваўкамі. Мы пачулі гісторыі і іншых жыдоўскіх дзяцей, а таксама пабачылі дом, у якім жыў чалавек, які ў Ізраілі заснаваў кібуц Беласток. Спадар Дарыюш прапанаваў нам знайсці каменьчыкі і ўзяць з сабою. Пад Галерэяй Слендзінскіх мы пачулі, што раней у гэтым будынку была сінагога сям'і Цытронаў.





Апошнім прыпынкам нашай экскурсіі быў помнік героям гета па вуліцы Жабяй. Там мы і паклалі нашы камяні ў гонар загінуўшым жыдам.



Вельмі падабалася нам гэтая экскурсія. Дзякуем нашаму экскурсаводу спадару Дарыюшу.

**Рэбэка Каспэрук, Ніна Белавежац, Габрыся Дэптула, Оля Галубоўская**

Клас 6 ц Пачатковай школы № 4 імя Сібіракоў у Беластоку

Фота Аліны Ваўранюк

Міра ЛУКША

## Гадзіннік

Размахвае маятнікам гадзіннік,
ён лічыць-накручвае гадзіны.
Заводзяць яго гіркай цяжкай,
што з ланцужка звісае важка.
На цыферблаце белым колам
дванаццаць лічбаў ёсць вясёлых.
Для кожнай з іх пачуем «ку-ку»,
хоць дваццаць чатыры іх у суткі.
Ходзіць гадзіннік, хоць бязногі,
лічыць гадзіны без трывогі,
трапна куе зязюлька ў сенцах,
адкрыўшы дзюбаком акенца,
а потым зноў сядзіць у будцы,
ці ноч, ці дзень, мо спіць ціхутка?
Не забудзь гіры падцягнуць,
каб тое «ку-ку» добра ўчуць,
зязюлька і не есць, не п'е,
толькі гадзіны падае.
Стары гадзіннік, старая птушка,
стары той маятнік час той гушкае.
А час — ён вечна малады,
секунды і хвіліны тчэ, гады.
Сівая галава ў бабулі,
ды ў галаве ўсё гулі-гулі,
з унукам і праўнукам забавы,
навукі і больш важныя справы.
А час ён вечны, ён — цяпер.
Дае сябе нам напавер.

## УВАГА КОНКУРС! № 42-20

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 1 лістапада 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Без рук б'ецца,
ходзіць увесь век
— а не чалавек.
Г........

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 38: вятрак. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Аліўка Саснюк і Мартына Білевіч. Віншуем!

# Міфы старажытных беларусаў

АСІНА — самае пагрэбаванае дрэва ў традыцыі нашых продкаў. Напэўна паўплывала на гэта чорная слава, менавіта на асіне меў павесіцца Іуда. Ён не мог супакоіцца пасля таго, як здрадзіў Ісусу Хрысту і свой ляк і ліхаманку перадаў дрэву. У народзе па сённяшні дзень лічаць асіну спалоханым дрэвам, якое трапяціць ад любога павеву ветру. Яе не скарыстоўваюць у якасці дроў і не паляць у печы.

Асіна аднак мела вялікае значэнне ў магічных практыках. Нашы продкі адганялі галінкамі асіны ведзьмаў, якія кралі ад кароў малако. Таксама на дварах, якія лічыліся праклятымі або зачараванымі, людзі палілі ачышчальны касцёр з асіны.

З дапамогай асінавых галінак знахары лячылі зубы.

Дрэва прыпісвалі злачынцам, якіх праганялі ад родных мясцін. Пра іх гаварылі: «Уцёк ды асінкаю заламаў дарогу». Заламаць асінай дарогу лічылася страшным і моцным магічным сродкам. Гэта значыла, што ўцякач ужо ніколі не вернецца на тое месца.

Нашы продкі верылі і ў **аблудныя дрэвы**, якія валяліся ў лесе пасля бураломy ў рабінавую ноч (рабінавая ноч — летняя ноч, калі ўвесь час грымела, свяцілiся маланкі і ішоў дождж). Калі нехта пераступіў цераз такі пень, ён губляўся ў невялікім і нават добра знаёмым лесе. Вандроўнік глядзеў на сонца і ўсведамляў, што каб яму выйсці з лесу, трэба рушыць на поўдзень, але ён чамусьці ішоў на поўнач. Дайшоўшы да сваёй вёскі, ён не пазнаваў сваёй мясціны. Часам ён блукаўся некалькі гадзін або і цэлы дзень. Пра такія выпадкі надта любілі баяць нашы дзяды з прыпушчанскіх вёсак. У народзе казалі, што нешта іх «вадзіла» па сваім лесе, дзе ўсе дарожкі і сцежкі яны ведалі напралёт. Можа і сёння вам яшчэ пашанцуе пачуць і запісаць такі аповед, якога карані сягаюць міфалогіі старажытных беларусаў?!

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**



Фота ГК

Бел-чырвона белы Беласток

# **Бараніна** з грэчкай



Сёння чарговы рэцэпт з «Беларускай кухні» аўтарства Юры Качука.

Вядома, калі кастрычнік, тады прабуджаецца смак на стравы з бараніны. Не, не той, якую прапануюць у кебабах, дзе з дапамогай прыпраў і дадаткаў хаваюць характэрны пах і смак мяса. У нас якраз цэняць сапраўдны смак бараніны з гаспадарскай гадоўлі, насычанай духмяным пахам і здаровым тлушчам, які адначасова сыціць і адганяе ўсякую прастуду і кашаль. Дадаткі, у рэцэпце Юры Качука, мінімальныя — усё, каб страва не страціла свайго характару і моцы. Праўда, гэтую страву палюбяць найперш шукальнікі арыгінальных смакаў і старыя гурманы.

**Складнікі:**

500 грам бараніны,
1,5 шклянкі грэцкіх круп,
1 цыбуліна
2 сталовыя лыжкі таматнай пасты,
2 сталовыя лыжкі сметанковага масла,
0,5 цытрыны,
соль і перац да смаку.

Бараніну нарэзаць кавалачкамі, паліць цытрынавым сокам, пасаліць, паперчыць і абсмажыць з нашаткаванай цыбуляй. Мяса пераклaсці ў рондаль, заліць кіпенем, дадаць таматавай пасты і тушыць пад накрыўкай.

Тым часам грэцкія крупы прамыць і падсмажыць на сметанковым масле да колеру забеленай кавы, засыпаць у кіпень і варыць да паловы гатоўнасці, потым далучыць да бараніны, перамяшаць і тушыць да поўнай гатоўнасці.

Страву найлепш спажываць гарачай, проста з печкі.

Смачна есці!

*(гак)*

## Польска-беларуская крыжаванка № 42-20




Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 38-20:**

Гара, аблік, сябра, мара, суп, ён, ар, мясціна, магніт, толк, Ас, месяц, кот, як, ранак. Мар, абарот, ом, Ас, Месяц, макс, абсяг, брусніца, лапці, Ітака, клён, сок, інак.

Узнагароды, **беларускія літаркі на камп'ютарную клавіятуру,** выйграў **Адрыян Гаўрылюк**. Віншуем!

# Савецкае шчасце

**(ч. 14)**



Фіны таксама паказалі высокае майстэрства, як трэба ваяваць і то належна з захопнікам. Саветы гэтых духовых і маральных якасцей у сабе не мелі і не ведаю, ці калі будуць мець. Бо захопнік адно мае ў галаве: завалодаць і заняволіць падбіты народ, а яго культуру, мову... усё гэта пусціць у прах і навесці сваю гегемонію і яе меч.

Пасля гэтых выбараў у дэпутаты ад 22 кастрычніка 1939 года мы ўсе, як правіла, сталі легальнымі жыхарамі «шырокай страны маёй родной»; некаторых нашых маладых людзей (а нават жанатых, як Ерый Гіль; і ён загінуў на вайне ў 1942 годзе) прызвалі ў рады савецкай арміі і там служба не такая была салодкая, як Янка Купала апавядае ў сваім вершы п.з. «Выпраўляла маці сына», дзе гаворыцца голасна, як запавет... «Не зазнаеш крутых сцежак — сыты і адзеты. Вартаваць ты будзеш межы Краіны Саветаў. Не зазнаеш тамка гора, будуць паважаці, Даглядаць цябе не горай, як родная маці».

О, бедны Янка Купала, навошта было ў жывыя вочы лгаць людзям такую байку? Дык амаль усе твае вершы савецкага часу гэта файныя байкі для дзяцей. Але яны і сёння жывыя і праўдзівыя ў Беларусі Лукашэнкі. На жаль, такая праўда. Імі захапляюцца ўсе дзівакі. Ясна, што ратаваў як і рэшта тваіх сяброў па пяру — сваю скуру. І твая смерць леткам у Маскве ў 1942 годзе надалей ёсць гістарычная і загадкавая. А ты ж геній і ніхто гэтаму не ў сілах запярэчыць, але для мяне ілжывы верш мала вартасны. І нашы „белавежцы” з Падляшша; я іх намнога цаню і вышэй стаўлю над байкамі нават тых найвышэйшых літаратурных аўтарытэтаў. Бо кожная мана мае кароткія ногі. Або другі «На нашым полі», дзе гучаць: «прызыўныя» водгукі і байка XX стагоддзя: «На нашым полі, полі калгасным, дзянькі праходзяць весела, ясна і дружна працуем мы грамадою, знацца не знаем з горам, з бядою».

Далей няма што і пісаць, бо адзін толькі «рай» пануе ў савецкай Беларусі і то ў 1934 годзе (бо ў тым паэт напісаў іменна той верш), калі сялян сілай гналі ў калгас, калі на Беларусі, Украіне і далей мужыкі пухлі ад голаду і паміралі, і то мільёнамі, і тут чуем словы: «Знацца не знаем з горам, з бядою». Амаль цудоўна. Альбо як маці выпраўляла свайго сынка амаль у савецкі салдацкі рай.

Але, калі гэтыя салдацікі «вызвалялі» нашу зямельку ў верасні 1939 года з-пад панскага прыгнёту і нашы дабрадушныя людзі віталі іх кветкамі, дык гэтыя салдацікі чамусьці шапталі: мамаша, лучше было бы, чтобы ты дала мне хлебушка, мне эти цветы неинтересны...

І дзіўна, што «апазіцыянерамі» адтуль і сёння сваіх выхваляюць літаратурных ілгуноў аж да неба, ясна, сваіх. А хто з нашых трохі скажуць праўду, дык яго аплюююць з ног да галавы і ў сваіх нудных рэпартажах пішуць амаль «па-нямецку», то нічога не зразумееш і не ведаеш, дзе пачатак, а дзе канец. І мала хто іх чытае, о, тых з апазіцыі і ім падобных. Чаму ніхто з іх не напісаў, што Ленін гэта д'ябал і антыхрыст і яго прах нават не варты святой зямелькі і толькі спаліць і выстраліць з гарматы і ўсе яго помнікі і вуліцы зліквідаваць. А маўзалей разваліць і на яго месцы пабудаваць найвялікшы Божы храм. Таксама і рэшта бальшавіцкіх галаварэзаў як Дзяржынскі, Свярдлоў, Машэраў, Жукаў (ён таксама і садыст, і яшчэ які, бо шуфляй сваіх салдат кідаў проста ў агонь, як Сталін, і яшчэ злодзей) — іх усіх не пералічыць і іх дарога — у сметнік гісторыі. На іх месца ў Расіі, у Беларусі... знойдуцца сапраўдныя героі і яны запалымнеюць сваім святлом і славай. Помню адзін сказ з майго артыкула ў «Ніве», які гаворыць: «Пакуль у Расіі будзе лунаць дух Леніна, датуль у гэтай краіне не будзе дабра і парадку». І я не хвалюся, але падобнага сказу ў «Ніве» не было, бо нікому ў галаў не прыйшла такая мысль. А шкада. І тое, што я напісаў крытычна пра паэтаў (і трохі пісьменнікаў) савецкай Беларусі пра іх прошлае, многім гэта не спадабаецца і наўрад ці будзе надрукавана. Але гэта ўжо не мой клопат. Але былі і героі сярод паэтаў, якія былі змушаны ў турмах сядзець і жыць у Беларусі — у той жалезнай клетцы камунізму і яны ні на адну ёту, ані словам не заікнуліся пахваліць жалезную заслону. Сярод іх была верная дачка Беларусі і таленавітая паэтэса Ларыса Геніюш, якая са сваім мужам прайшла цяжкі, цярністы, невыносны шлях жыцця і амаль сілай прымушана жыць у «райскай» краіне, дзе сталіцай ёсць Мінск. Яна на калені не ўпала перад рэжымам і прадаўжала весці свой творчы шлях. Яна не прыняла ніколі савецкага грамадзянства, бо гэта лічыла ганьбай і пагардай у сваім сэрцы. І ясна, ні ў адной энцыклапедыі і гісторыі па літаратуры пра яе ані аднаго слова няма. Цішыня нямая!

Ясна, і тыя паэты і празаікі, што апынуліся за мяжой падчас Другой сусветнай вайны, яны таксама не выхвалялі савецкага ладу, але сярод іх былі і такія, што хацелі і нават вялі падвойную ролю: служыць Богу, як і мамоне. Ведаў аднаго з іх.

Цяпер ізноў вярнуся да роднай вёскі. Што ж, і ў нас не было так гладка і патрыятычна пры саветах. Бо некаторыя маладыя, праз сваё невуцтва, брак маральнасці і культуры ды дзікую сваю натуру; праз гэтыя прызмы лёгка ўчапіліся на кручок спрытна пастаўленай бальшавіцкай вудачкі. Гэта яны, як асобы з кружка пад кіраўніцтвам аднаго лодара і дзівака на свята гарланілі непрыстойныя антырэлігійныя песенькі каля царквы і нават навокал яе. Што праўда, большасць з іх «раскаялася», але факт застаецца фактам: дасканалых людзей няма нават сярод і здаецца разумных людзей, а што ўжо гаварыць пра дзіч?

Жыў у вёсцы таксама міжваеннага яшчэ часу дзяк і псаломщ Сцяпан Самойлік. Ён прыбыў, а хутчэй уцёк у Польшчу пасля бальшавіцкай рэвалюцыі і пасля знайшоў прытулак у нас і служыў у царкве. Пры чарцы любіў пахваліцца словамі: «Я этих большевиков рубил шашкой во время революции». І гэтыя словы некаторыя нашы людзі запамяталі. А той чалавек быў граматны і калі саветы прыйшлі, ён не ўцякаў, бо і куды? Бо святар той дужы Мірон неяк уцёк ажно ў Варшаву, хаця найперш нашы актывісты яго былі і арыштавалі, але пасля адпусцілі. І той Самойлік быў выбраны як прадаўшчык у нейкай у нас скромнай краме-каапэратыве, якую саветы маглі нашым жыхарам прызначыць. Тавараў заўсёды бракавала і заўсёды стаяла вялікая чарга па іх. І аднойчы прывезлі нейкае палатно і, прадаўшы, адной асобе не ўгадзіў. І тут на яго — Самойліка — данос, дзе была ўспомненая і шабля на бальшавікоў. І на жаль, некалькі нашых чалавек паставілі свае крывыя подпісы на гэтай няшчаснай паперы. А гэтага хапала. І псаломшчыка-дзяка савецкія органы арыштавалі і выслалі на Салаўкі, пакідаючы яго жонку і пяцёра дзяцей. Адтуль дзяк прыслаў пісьмо жонцы, у якім пісаў, што ён захапляецца і то вельмі «северным сиянием». Што ж, чалавек не мог больш чым пахваліцца. І там злажыў свае косці.

А жыццё ішло сваёй, лічыць што савецкай сцежкай, бо ў большых пасёлках і гарадах дзейнічалі розныя сельсаветы, раённыя і маладзёжныя арганізацыі, як піянеры, камсамольцы і іншыя. На сялян налажылі вялікія падаткі і норму: колькі выразаць у лесе драўніны і вывезці ў далёкі пункт. Была норма вывазкі каменя і пастаўкі яго пад Буг на пабудову гэтых «славутых» бункераў лініі пад назвай Молатава, чыста ўзятай ад фінаў падчас вайны з імі зімою 1939-1940 гадоў. На пабудову гэтай абарончай лініі скора пагналі і некаторых малодшых нашых людзей з вёсак, у тым ліку майго бацьку і дзядзькоў, пра што раскажу трохі пазней. Але галоўнай мэтай саветаў было: усіх нашых мужыкоў загнаць у слаўныя калгасы; так, яны былі славутыя ў вачах бальшавікоў і мелі добрых на гэта сваіх дарадчыкаў і аграномаў.

І адзін з іх наведаў нашу вёску і давай павучаць сялян, як трэба гаспадарыць, а найлепшай, як ён лічыў, формай гаспадаркі ёсць калгас. Чалавек гэты меў асобы арліны нос і дзіўны акцэнт рускай гаворкі. І яшчэ дзіўнейшая была яго «навука», бо гаварыў: «сэйте болшэ чапухі...». Нават нашы людзі дакладна не ведалі, што гэта за расліна. І адзін з іх — слухач Леўка, чалавек скоры на смех, зарагатаў. І тут аграном штосьці скапнуў і пагражальна прамовіў: «Но, но скорэ ты попохочышся, но нэ тут, алэ там дэ ходят білы мэдвэді». І ясна, што мужык злякаўся, але неяк прайшло шчасліва і на белыя мядзведзі ён не трапіў. Пасля прыехаў іншы і склікаў сход сялян, а той ужо амаль чыста гаварыў па-руску, а гэта быў свайго роду так аграном, як і палітрук. І найбольш гаварыў пра даброты савецкай гаспадаркі, а на канец сваёй вывучанай рыторыкі спытаўся: «Ці ёсць яшчэ нейкія пытанні?» І адзін з нашых сялян, пачэсны і майстар на ўсе рукі Кузьма Анапрыюк, а меў ён многа зямлі, нясмела паскардзіўся, што замнога налажылі на яго падаткаў, і яму не пад сілу гэта выканаць. Аграном-палітрук ажно падскочыў і з нянавісцю закрычаў: «Вот где прется кулацкая морда, всех их долой...». Аднак ніхто з нашага начальства не ўступіўся за селянінам. І сяляне, вяртаючыся ўжо дамоў, ясна зразумелі: з саветамі-вызваліцелямі няма жартаў і сядзі дома як мыш пад мятлою. І да ніякіх боек паміж імі ніколі пры саветах не было. Не да гэтага ім было, бо гэта ўжо не панская Польшча.

У розных каапэратывах-крамах, магазінах не было чаго купіць, а тыя тавары міжваеннага часу расійская дзіч з усходу расшабравала і раскрала да самай ніткі. А сваіх тавараў амаль не мелі, але ж штосьць там час ад часу маглі даставіць, як напрыклад цукар у вялікіх цвёрдых грудах. Але для нашых людзей і гэта было вялікай дапамогай, бо пры Польшчы цукар быў надта дарагі і ім скупа дзяліліся. Але людзі не трацілі надзеі і яшчэ валодалі сваімі вузкімі палоскамі зямелькі, дык мелі свой хлеб штодзённы і штосьці яшчэ да яго.

А ў школах вучылі па-рознаму і, вядома, на савецкі стыль. Асвета не мела выдрукаваных гатовых школьных пасведчанняў заканчэння школьнага года і класа. Хаця мелі свой выхад на гэта: проста на картцы вырванай са сшытка настаўнік выпісваў вывучаныя прадметы і ставіў ацэнкі, а ў нізе падпісваўся і ставіў пячатку школы Хаця не ўсе з вучняў маглі дастаць такі дакумент. А чаму? Не ведаю. Можа з-за абыякавасці настаўніка і дырэктара школы да сваіх выхаванцаў? Такое пасведчанне я бачыў, калі быў лістаношам, у аднаго жыхара ў Тафілаўцах, спадара Дзмітрыя Дзіды; гэта яго брат Федзя закончыў у Дубічах пяць класаў савецкай школы. Гэты школьны дакумент — простая картка ў клетку вырваная са сшытка і ўпісаны там прадметы і ацэнкі, ёсць там подпіс настаўніка і пячатка школы. Фармальнасць, вось, такая, як апісаў я вышэй...

(працяг будзе)

Мікалай ПАНФІЛЮК

# Пішу,
## пакуль магчымасць ёсць пісаць

**29 кастрычніка 2020 г. у BIG BOOK CAFE ў Варшаве адбылася вельмі цікавая сустрэча — унікальны вечар беларускай паэзіі! Добра, што беларускай паэзіяй і музыкай зноў цяпер зацікавіліся. Створанай беларусамі ў Беларусі і ў Польшчы.**

У той дзень, таксама ў Варшаве, павінна была адбыцца незвычайная падзея — канцэрт Лявона Вольскага з балкона на Кракаўскім Прадмесці! Усе ў 19.00!

Я абраў маленькую кавярню на Макатове. Гэта была сустрэча ў серыі «Кароткі ўдар мяча» з загалоўкам «Вольная беларуская паэзія».

У сустрэчы прынялі ўдзел:

— **Міра Лукша** — паэтка, пісьменніца, журналістка і перакладчыца. Аўтарка 18 кніг, у тым ліку 11 тамоў паэзіі. Яна нарадзілася ў Гайнаўцы на Падляшшы і 35 гадоў працуе ў штотыднёвіку беларусаў у Польшчы „Ніва”;

— з камп'ютарнага запісу — Андрэй Хадановіч — беларускі паэт, перакладчык, літаратуразнавец. Аўтар паэтычных тамоў, у тым ліку „З Беларусі з любоўю”, „Берлібры”. Ён перакладаў творы, сярод іншых Міцкевіча, Мілаша, Герберта. У 2015 годзе атрымаў узнагароду Польскага ПЭН-клуба і сярэбраны медаль „Zasłużony Kulturze Gloria Artis”;

— **Тацццяна Царук-Фалевіч** — узнагароджаная фатографка, журналістка, падарожніца і краязнаўца. Яна нарадзілася ў Навагрудку ў Беларусі, жыве на возеры Свіцязь і ў Польшчы.

Інтэрв'ю праводзіла **Зофія Ябланоўска-Ратайска**.

У апісанні мерапрыемства адзначана: «За вершы можаце сесці ў турму. Вы можаце страціць працу, як Ганна Северынец, якая піша пра „тату Колі”, які ведае ўсё лепш за ўсіх. Ці баяцца паэты? Ці добрыя часы для пісання зараз? Мы чытаем вершы, задаём пытанні і размаўляем пра тое, як жывуць сёння беларускія паэты і што яны думаюць. Журналістка і фатограф Тацццяна Царук распавядзе пра гісторыю і мову беларускай паэзіі, яе мелодыю, багацце слоў і сімвалаў».

Камерная сустрэча ў вельмі ціхім і вельмі зручным для літаратуры месцы прайшла па плане. Пачалося з чытання верша. Гэты верш ужо крыху задаў сустрэчу. Ён моцны і праўдзівы:

Ляюн Гаюн („Вольны Віцебск”)

„Я прачытаў у інтэрнэце смс-паведамленне нейкай дзяўчынкі яе маці: <Дома мяне не чакай, я еду аўтазакам>”. Ён дакрануўся да глыбіні душы.

Гэтыя вершы я прысвячаю нашым жонкам, сёстрам, маці і сябрам. *Пишу, пока возможность есть писать. Мне надоело жить в таком бараке, Где голову поднять хочу, а мне: «лежать!» Мне надоело быть «овцой» и «крысой...».* У перакладзе на польскую мову верш гучыць так:

W domu na mnie nie czekaj,
jadę milicyjną „suką”,
Piszę, póki jest możliwość pisać.
Sprzykrzyło mi się mi żyć w takim baraku
Gdzie głowę podnieść chcę, a mnie: „leżeć!”
— wrzeszczą,
Przyszło mi być „owcą” albo „szczurem”,
„Parzystokopytną”, „odszczepieńcem”
i „burakiem”,
„Świadomą”, „maciorą”, „ciężarną”,
Nie chcę być „narkomanką”, „prostytutką”,
„niegodną matką”, „motłochem”,
czy „szczeniakiem”,
Nie chcę być „nocnikiem przy łóżku”,
„Wyrzutkiem społeczeństwa”, nie chcę spać
ze „spoconym facetem”.
Nie chcę być wyrzuconą z pracy,
być „wariatką z Majdanu”,
Mieszkać w miasteczku
czy na skrawku ziemi,
I dzieciom nie chcę zbudować
budy zamiast domu
Na tym skrawku ziemi na śmietnisku.
I dlatego jadę milicyjną „suką”, —
Piszę, póki jest możliwość pisać.
Żeby nasze dzieci nie w łapciach,
tylko we fraku
Na bal mogły pójść i tańcować godnie!
Żeby mój naród nie cierpiał obrazy
Mógł tworzyć, — tworzyć z duszą, marzyć!
Żeby dojarka z godnością, bez skrępowania,
Mogła powiedzieć: „Jestem szefową farmy,
Jestem — oświatelką, jestem Matką!
Żeby synonimem dla pojęcia „Białoruska”
Były Wolność, Wiara i Miłość.
Żeby wreszcie przyszła zmiana Systemu,
I nigdy więcej nie lała się krew.



■ Міра Лукша і Зофія Ябланоўска-Ратайска



■ Тацццяна Царук-Фалевіч

Беларусь — гэта паэзія і жанчына! Яна выходзіць на вуліцы гарадоў і мястэчак Беларусі ўжо 51 дзень.

Міра Лукша прачытала некалькі сваіх вершаў, вершы Адама Глобуса і Анатоля Сыса. Тацццяна Царук-Фалевіч паказала свае фотаздымкі з Беларусі і распавяла пра неабходнасць пісаць вершы. Яна таксама прачытала ўрывак з верша Якуба Коласа (Канстанціна Міцкевіча) «Новая зямля» ў перакладзе Чэслава Сэнюха: „Zakątek mój kochany, miły!../Zapomnieć cię ja nie mam siły!.. /Nie jeden raz, zmęczony drogą,/ Wspominam wiosnę mą ubogą,/ Do ciebie myśli me wracają / Z tobą chętniej odpoczywają./ I pragnę zawsze wtedy bardzo/Przeżyć z tobą znowu wszystko/ Przejść ponownie i obejrzeć,/ Z dróg kamienie tamte zebrać,/ Co zniszczyły siły młode, /Powrócić tu do wiosny swej”. Чытаўся і вядомы ўрывак па-беларуску іншага Міцкевіча з Беларусі — Адама, інвакацыя да «Пана Тадэвуша».

Свае вершы чытала і Кася Сянкевіч, маладая паэтка і мастачка з Нарвы.

З залы прагучала таксама пытанне: «Як справы з беларускай меншасцю на Падляшшы? Што вы робіце і думаеце ў кантэксце сітуацыі ў Беларусі. Цяпер вы больш смелыя і прызнаеце сваё паходжанне?»

У адказ Міра нагадала пра працу для меншасці (і беларускую мову), якую гадамі робяць людзі з тыднёвіка «Ніва», штомесячніка “Czasopis”, Radio Racja і іншых медыя і школ. Прыгадала паэтычныя конкурсы, літаратурныя сустрэчы „Бязмежжа” і іншыя мерапрыемствы, таксама тыя, якое рабіла старэйшае пакаленне беларусаў.

Я згадаў сваю ініцыятыву „Парламент беларусаў Польшчы”, дзе маім натхненнем стаў саамскі парламент у Фінляндыі. Такі парламент быў бы прадстаўніцтвам беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Ён мог бы праз сваіх прадстаўнікоў вырашаць важныя з пункту гледжання гэтай меншасці праблемы. Парламент польскіх беларусаў быў бы вышэйшым „палітычным” органам, які прадстаўляў бы польскіх беларусаў ва ўнутраных і замежных справах, у пытаннях мовы, культуры і становішча беларусаў як меншасці, якая пражывае ў Польшчы. Ён таксама мог бы прадстаўляць рэгіянальным альбо нацыянальным уладам свае прапановы, заявы альбо ініцыятывы, звязаныя з прадметам сваёй дзейнасці.

Я таксама прачытаў кароткі верш Міры, які мне асабіста блізкі.

Дзікая ружа на мяжы
На самотнай планеце паміж
Міхаловам і Гарадком,
Ліст мне пішаш.

А што азначае гэтая паэзія? Ці актуальна гэта ў Беларусі (і не толькі) у цяперашні час?

А можа, гэта як у вершы Тадэвуша Ружэвіча? „Мая паэзія/ нічога не тлумачыць/ нічога не высвятляе / ад нічога не адракаецца / яна не ахоплівае цэлага / не апраўдвае надзеі // яна не стварае новых правілаў гульні / не ўдзельнічае ў гульні / мае месца закрэсленае / якое яна павінна запоўніць // калі гэта не эзатэрычная мова / калі не прамаўляе арыгінальна / калі не здзіўляе / відаць так трэба // яна падпарадкоўваецца ўласнай неабходнасці / уласным магчымасцям / і абмежаванням / яна прайграе самой сабе // яна не замяняе іншай / і не можа быць заменена ёю / адкрытая для ўсіх/ пазбаўленая таямніцы // мае многа задач / з якімі ніколі не справіцца”.

Як сказала Тацццяна, «беларуская мова — добрая для паэзіі. Яна далікатная, ядвабная, цудоўная. Але бываюць такія часы, як зараз, калі мова становіцца зброяй. Перастае быць кветкай, шаўковай хусткай. Яна становіцца гарачай, як жар. Калі мы пішам свае вершы, мы ведаем, за што змагаемся, што абараняем. Мы абараняем сваю душу, мы абараняем свае сэрцы. Мы абараняем свае сем'і, бацькоў і дзяцей, каб яны мелі сваю душу і свабоду. Таму што без свабоды няма душы. Таму беларуская мова — мой шчыт. А сама Беларусь — гэта месца, дзе розныя мовы былога Вялікага Княства Літоўскага могуць існаваць побач. Таму што гэта месца сустрэчы культур і моў. Гэта багацце. Так можна вучыцца талерантнасці да іншых».

Таму будзем пісаць, каб і мы тут, на Падляшшы, не прапалі. Каб наша меншасць выжыла. ЖЫВЕ!!!

Тэкст і фота
**Дарыюша ЖУКОЎСКАГА**

# Дрэвы, якія даюць нам дыханне

*Oxytree* — кіслароднае дрэва, оксітрэя, паўлонія можа быць дрэвам будучыні, надзеяй на мэблевую прамысловасць і саюзнікам у барацьбе са смогам. Саджанцы кіслароднага дрэва даступны ў Польшчы ўжо некалькі гадоў. Ці варта цікавіцца *Oxytree*?

Кіслароднае дрэва — агульная назва паўлоніі, а дакладней, змененых генетычна двух яе відаў: паўлоніі фартунеі і паўлоніі элангаты, з якіх іспанскія біятэхнолагі вырасцілі — на думку многіх — дрэва будучыні. Такое меркаванне *Oxytree* абавязана сваім уласцівасцям.

Кіслароднае дрэва хутка расце — на працягу шасці гадоў яно можа дасягаць вышыні ў некалькі метраў, а ствол за гэты час будзе мець дыяметр ад 30 да 40 сантыметраў. Больш за тое, дзякуючы надзвычай моцнай каранёвай сістэме, оксітрэя сягае некалькіх метраў у зямлю, адрастае нават пасля абразання, і цыкл можна паўтарыць некалькі разоў. Кіслародныя дрэвы (адсюль і іх назва) выпрацоўваюць велізарныя колькасці кіслароду. Па даных аўтараў сайта oxytree.pl, *Oxytree (Paulownia Clon in Vitro 112)* — гэта дрэва, створанае ў выніку працы навукоўцаў, якія перасеклі і потым кланавалі два віды ў лабараторных умовах. Новы гатунак быў дададзены ў 2011 годзе ў Службу разнавіднасцей раслін (ЕС). Ён можа вырабляць у дзесяць разоў больш кіслароду дзякуючы лісцю з плошчай да 3000 квадратных сантыметраў (70 см у дыяметры). Гэта звязана з велізарным, раскладзістым лісцем. Кіслародныя дрэвы забяспечваюць у дзесяць разоў больш кіслароду, чым традыцыйныя лісцяныя пароды дрэў, якія сустракаюцца ў Польшчы. Першыя плантацыі оксітрэі ўжо знаходзяцца ў Падляшскім ваяводстве. Наватарскае прадпрыемства ў гэтай галіне рэалізуе Універсітэт аграбізнесу ў Ломжы. Ён супрацоўнічае з Гарадскім прадпрыемствам камунальнай і жыллёвай гаспадаркі ў Ломжы і навукова-даследчай станцыяй Інстытута аховы раслін у Беластоку.

Па словах доктара Януша Лісоўскага, прафесара УА ў Ломжы, гэтая ініцыятыва таксама добразычліва падтрымліваецца Падляшскім ваяводствам і Маршалкоўскай управай. „Здаецца, гэта вельмі каштоўнае і наватарскае спалучэнне даследаванняў з рэальнай дзейнасцю па ўзбагачэнні і ахове навакольнага асяроддзя. Мы вельмі хочам, каб супрацоўніцтва ўніверсітэтаў з прадпрыемствамі і кампаніямі развівалася як мага лепш", — кажа на гэты конт Марэк Ольбрысь, намеснік маршалка Падляшскага ваяводства.

У Польшчы оксітрэя некалькі гадоў прысутнічае на эксперыментальных плантацыях, але ў асноўным у вёсках. Наяўнасць кіслароднага дрэва ў гарадах толькі правяраецца.

— Нядаўна Вроцлаў, які з'яўляецца адным з галоўных цэнтраў цікавасці да оксітрэі ў краіне, з гонарам абвясціў, што ў гарадскіх умовах там было размешчана дзесяць саджанцаў. Лодзь пахвалілася, што пасадзіла іх шэсць. У Ломжы ўжо некалькі месяцаў расце іх пяцьдзясят. Мы правяраем іх у пяці месцах: на маршрутах з інтэнсіўным міжнародным рухам і на важных вуліцах з тыповым гарадскім рухам, — тлумачыць доктар Януш Лісоўскі.

Кіслародныя дрэвы прысутнічаюць у Падляшскім ваяводстве ўжо некалькі гадоў, і не толькі ў Ломжы. Растуць яны на некалькіх плантацыях, сярод іншых у гмінах Чыжэў і Драгічын. Яны добра трымаюцца ў суровым клімаце паўночна-ўсходняй Польшчы.

Эксперты падкрэсліваюць, што неабходныя дадатковыя даследаванні кіслародных дрэў. Трэба даведацца, які ўплыў мае інтэнсіўны дарожны рух на тое, што назапашваецца ў іх лісці і ў глебе. У канчатковым рахунку, таксама, якая іх апалавая каштоўнасць. Даследуюць іх таксама ўніверсітэты ў Вроцлаве, Любліне, Кракаве і Ольштыне, Інстытут глебазнаўства і раслінаводства ў Пулавах. Для навукоўцаў і эколагаў таксама важна ацаніць, як кіслароднае дрэва ўплывае на мясцовыя экасістэмы і віды раслін.

Пакуль вядома, што оксітрэя значна паляпшае якасць паветра. Яна таксама можа быць карысным рэцэптам для культывавання самых слабых глеб. Аднак даследаванні дарагія і Ломжа, і ўвесь свет навукі шукаюць фінансавых саюзнікаў у гэтым пытанні.

Сезон пасадкі *Oxytree* доўжыцца ў Польшчы з сярэдзіны мая да канца ліпеня. У садовым вырошчванні можна знайсці не толькі *Oxytree*, але і іншыя віды гэтага дрэва, напрыклад, імшыстую паўлонію. Кіслароднае дрэва ідэальна падыходзіць для хатніх садоў і рэкрэацыйных участкаў. Яго галінкі і лісце велізарнай кроны нададуць цень у гарачыя дні, а кветкі ўпрыгожаць любы сад. Акрамя таго, паўлонія — гэта меданос, які прыцягне ў сад шмат апыляльнікаў.

Некаторыя людзі, зацікаўленыя ў куплі кіслароднага дрэва, шукаюць інфармацыю пра насенне оксітрэі. Як здаецца, значна лепш і прасцей набыць гатовыя саджанцы оксітрэі, чым вырошчваць яе з насення. Саджанцы ўжо прышчэплены, прадаюцца ў вазонах і гатовыя да пасадкі. Саджанцы кіслароднага дрэва павінны трапіць у зямлю ў канцы траўня, калі будзе дакладна вядома, што начныя замаразкі ім не пашкодзяць. Сертыфікаваная расада каштуе каля 40-50 злотых.

**(лук)**




## https://chesshouse.by

Пачатак 2019 года быў для лукашэнкаўскай улады даволі спакойным, нягледзячы на тое, што канец папярэдняга — 2018 года адзначыўся невялікім хваляваннем. Тады ў снежні кіраўнік расійскага ўрада намякнуў нязменнаму беларусаму, што грошай на падтрыманне „беларускага эканамічнага цуду" стала значна меней, а нейкай карысці ад так званага Саюза Беларусі і Расіі ў палітычным плане амаль не праглядаецца. А праз месяц былы расійскі віцэ-прэм'ер Аляксандр Дварковіч, стаўшы на той час старшынёй Міжнароднай шахматнай федэрацыі (ФІДЭ), у Мінску падпісаў пагадненне аб правядзенні ў 2022 годзе ў Беларусі Сусветнай шахматнай алімпіяды.

Зразумела, мала хто мог уявіць, што праз паўтара года Аляксандру Лукашэнку будзе зусім не да падрыхтоўкі да спартовых спаборніцтваў, бо трон пад ім захістаўся настолькі, што ён прыйдзе ў турму, каб „паразумецца" з тымі, каго сам жа пазбавіў волі за палітычную дзейнасць. І вельмі верагодна, што сустракаць удзельнікаў шахматнай алімпіяды будзе ўжо іншы беларускі прэзідэнт. А сярод мноства шахматыстаў, магчыма, будуць і тыя, хто навучаўся ў клубе „Шахматны дом", які дзейнічае ў Мінску.

„Шахматны дом — гэта клуб як для юных, так і для дарослых аматараў шахмат. Наша мэта — аб'яднаць усе ўзросты пад адным дахам нашага дома", — распавядаецца на галоўнай старонцы яго сайта, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе https://chesshouse.by. Там жа адзначаецца, што ільвіную долю поспеху ў спорце складае ўдзел у спаборніцтвах. „Таму мы хочам, каб удзельнікі нашага клуба мелі болей магчымасцей на практыцы прымяніць свае тэарэтычныя веды і развіць свае шахматныя здольнасці", — кажуць уладальнікі і натхняльнікі „Шахматнага дому".

Віртуальнае прадстаўніцтва клуба даволі просценькае. Ніякіх аздабленняў, фотаздымкаў ці малюнкаў няма, калі не лічыць эмблему клуба, якая змяшчаецца ў левым верхнім вугле цэлага выяўлення побач з назвай сайта. Але, нягледзячы, на такі някідкі выгляд, карысная інфармацыі на шахматным партале дастаткова. Прынамсі, з тэкстаў на ім можна даведацца пра тое, што гуляць у шахматы запрашаюцца не толькі дзеці, якім варта яшчэ павучыцца магчыма новай для сябе гульні, але і дарослыя, якім трэба неяк бавіць час. „Вельмі шмат дарослых людзей у нашым горадзе не ведаюць куды падзець сваю шахматную энергію. Цяпер у нашым „Шахматным доме" ёю можна будзе скарыстацца напоўніцу! Мы маем першы ў Мінску шахматны клуб для дарослых, дзе можна паглыбіць свае шахматныя веды ці проста выдатна правесці час за любімай гульнёй", — запэўніваюць аматары старадаўняй інтэлектуальнай гульні.

Пра тое, што ў „Шахматным доме" хочуць бачыць як мага больш наведвальнікаў, ходзіць у рубрыцы „Шахматная гасцёўня", і гэта зразумела, бо за наведванні клуб атрымлівае грошы. Праўда, кошты там адносна невялікія. Так, за адзін дзень гульні трэба заплаціць усяго толькі адзін рубель (каля 60 польскіх грошаў). А тыя, хто ёсць чальцамі клуба, увогуле наведваюць яго бясплатна.

Варта адзначыць, што навіны на сайце „Шахматнага дому" абнаўляюцца настолькі аператыўна, наколькі гэта мае сэнс, бо перад намі, зразумела, зусім не інфармацыйны партал.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з календара



# 95 гадоў з дня нараджэння Антона МАРКЕВІЧА

Беларускі грамадска-культурны дзеяч Антон Маркевіч нарадзіўся 14 кастрычніка 1925 г. у Гродне. Паходзіў з беларускай каталіцкай сям'і. Пра яго жыццё да 1944 года амаль нічога невядома. З 1944 года Маркевіч жыў у эміграцыі. Дзевяць гадоў (1946-1955) пражыў у нямецкім Мюнхене, але ўдзелу ў грамадскім жыцці там не браў.

У 1955 г. Антон Маркевіч перабраўся ў Канаду, дзе пачаў актыўна ўдзельнічаць у грамадскім беларускім жыцці. Спачатку ў Таронта Маркевіч нікога не ведаў, прыехаў на запросіны знаёмага ўкраінца. Маркевіч прыехаў у Канаду ўжо пасля расколу беларусаў на два супрацьлеглыя лагеры — ЗБК і Беларускае нацыянальнае аб'яднанне (адны трымаліся платформы Рады БНР, другія — БЦР) і быў свабодны ад ідэалагічна-падзельных догмаў. У 1958 годзе ЗБК і БНА зладзілі першае супольнае грамадскае святкаванне — гэта былі ўгодкі Слуцкага збройнага чыну.

Праз кароткі час быў абраны сакратаром Задзіночання беларусаў Канады. Браў чынны ўдзел у працы праваслаўнай парафіі, хоць і быў католікам па веравызнанні. Але парафіі гуртавалі людзей розных вызнанняў — бо гэта былі не толькі царкоўныя суполкі, але і своеасаблівыя беларускія грамадскія клубы. У 1958 годзе быў абраны старшынёй Галоўнай управы ЗБК. Разам з Кастусём Акулам ён заснаваў выдавецка-мастацкі клуб „Пагоня". Сярод іншага, сябры клуба рабілі значкі з „Пагоняй" і пярсцёнкі. Залатымі і сярэбранымі значкамі ганаравалі вядомых беларусаў за ўнёсак у грамадскую і культурную працу. Сярод узнагароджаных — Івонка і Янка Сурвілы, фотамастак Анатоль Кляшчук ды палітык Зянон Пазняк.

Маркевіч быў карэспандэнтам амерыканскай газеты „Беларус". Пісаў пра жыццё канадскіх беларусаў пад імем Хвядос Прылепскі, ці крыптапсеўданімам А-віч. У 1963 г. у складзе „Беларуса" — за рэдактарствам Станіслава Станкевіча — з'явілася старонка „Весткі з Канады", і Антон Маркевіч поруч з Кастусём Акулам, крыху пазней да іх далучыўся Барыс Рагуля, арганізаваў „канадыйскую" рэдакцыю. Праўда, праз некалькі год праз унутраныя спрэчкі і непаразуменні з Нью-Йоркам Маркевіч кінуў тое рэдактарства, гучна бразнуўшы дзвярыма.

У 1965 г., жывучы ў горадзе Ашаве, дамогся, каб бел-чырвона-белы сцяг уздымаўся штогод 25 сакавіка перад гарадской ратушай побач з канадскім. У 1970 г. разам з Вінцэнтам і Раісай Жук-Грышкевічамі дамовіліся з мэрыяй Таронта, каб сцяг уздымаўся на ратушнай плошчы кожны год 25 сакавіка. Як прадстаўнік беларускай грамады быў запрошаны на ўрачысты абед у мэрыі ў гонар брытанскай каралевы Элізабет у час яе адведзінаў Таронта. Неяк ён пазнаёміўся з кіраўніком украінскай радыёперадачы „Пісьня Украіны", што вяшчала на станцыі CHWO у гарадку Оўквіл паблізу Таронта, які паабяцаў дапамагчы ў арганізацыі беларускай перадачы. Неўзабаве з'явіліся штонядзельныя паўгадзінныя беларускія перадачы. Перадача праіснавала, праўда, толькі паўгода. Маркевіч, стомлены цяжкай працай, зрабіў, як ён сам згадваў, фатальную памылку. Папрасіў колькі тыдняў перапынку, і на яго частату ўлезлі італьянцы, і адбіць праграму назад не ўдалося. Але Маркевіч не здаваўся, прасоўваў беларускія навіны і музыку на іншых радыёстанцыях.

Апошнія гады, беручы пад увагу салідны ўзрост, Антон Маркевіч адышоў ад актыўнай грамадскай працы, але даваў ахвяраванні на „Беларуса" ці беларускія выдавецкія праекты. Памёр 9 лістапада 2009 года ў горадзе Ашава (Канада).

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## „Ніва” — наша газета

У кожны чацвер шмат экземпляраў беларускага штотыднёвіка „Ніва” прывозяць на пошту ў Нараўцы Гайнаўскага павета. Мне ў Новае Ляўкова лістаноша прывозіць 8-10 экземпляраў. На іх маю пастаянных чытачоў. Жыхары маёй і суседніх вёсак Нараўчанскай гміны ведаюць, што ў мяне заўсёды ёсць „Ніва” і да мяне прыязджаюць і прыходзяць. Прыязджалі, між іншым, з Тарнаполя. Калі спатрэбіцца больш экземпляраў, лістаноша давязе з пошты ў Гайнаўцы, там маюць іх у продажы больш чымсьці ў Нараўцы.

1 кастрычніка гэтага года ўпершыню завёз я „Ніву” ў Новую Луку. Атрымала яе солтыс гэтай вёскі Марыя Карольчук. „Ніву” № 40 ад 4 кастрычніка гэтага года выслаў я брату Міхалу ў Шчытна ды завёз Веры Клімюк з Плянты, Уладзіміру Прыступюку (ён брат мае мамы) і Мікалаю Янкоўскаму з Гайнаўкі. Спадар Янкоўскі родам з Альхоўкі, хадзіў у сямікласную школу ў сваёй роднай вёсцы. Ён расказаў мне пра свае школьныя гады, пра сяброў і настаўнікаў ды перапіску-ліставанне з вучнямі некаторых школ на Беларусі. Тыя незабыўныя гады ўспаміне з прыемнасцю.

Сёлетні саракавы нумар роднага часопіса чыталі найбольш у Новым Ляўкове — у вёсцы і на каленіі ды ў Плянце. Гэты нумар чыталі таксама ў Альхоўцы (тут жыве наш карэспандэнт Мікалай Варанецкі), Лешуках, Міхнаўцы, Нараўцы, Новінах, Старым Ляўкове, Семяноўцы і іншых вёсках. **(яц)**

**НАШЫ карэспандэнты**



## Такія ўказальнікі патрэбныя

Такія ўказальнікі стаяць на скрыжаванні дарог у новаляўкоўскім лесе Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Яны вельмі патрэбныя, між іншым, каб хутчэй магла даехаць на месца хуткая дапамога да цяжка хворага чалавека або машына з камандай пажарнікаў да пажару. Вядома ж усім, каго ў лесе спытаеш, куды і якая дарога вядзе. Новыя знакі паставілі сёлета.

Тэкст і фота **Янкі Целушэцкага**

## Пустыя будынкі ў Новым Ляўкове

У вёсцы Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета стаяць пустыя будынкі былой прадуктовай крамы і Акруговага малочнага кааператыва. Крама — гэта аб'ект ГС у Нараўцы, а пункт скупкі малака — АМК у Гайнаўцы. Два гады таму ГС прадаў, між іншым, усе паліцы ды жалезныя краты з вялікага франтавога акна крамы, а нават жалезную мачту і электраправады. Калі працавала крама, яе тры разы абкрадалі ды ніхто іншы толькі мясцовыя жыхары. А зараз былы пункт скупкі малака патанае ў высокіх ліставых зарасніках. Да яго таксама быў узлом і таму ў ім памянялі дзверы на мацнейшыя.

Цяпер абодва будынкі на скрыжаванні гмінных і павятовых дарог стаяць пустыя і нікому не служаць. А можа каму прыдаліся б і яны мелі бы другое жыццё?

Тэкст і фота **Янкі Целушэцкага**





# Адгаданка

1. сусед Аргенціны, 2. гістарычны рэгіён з Драгічынам, 3. цёзка Купалы і Брыля, 4. праём з шыбамі, 5. свіны нос, 6. агародная расліна сямейства гарбузовых, 7. вялікая сібірская рака, 8. архітэктурны стыль позняга Сярэднявечча, 9. падбор фарбаў у карціне, колеравая гама.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка.

**(ш)**

| 1 | 2 | | | | 3 | | | 4 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | |
| | 5 | | | | | | | |
| | | | | 6 | | | | |
| | | 7 | | | 8 | | | 9 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 38 нумара**

Полаз, атака, Ліда, голад, зык, ібіс, Лоеў, Іран, гушчар, борць.

Рашэнне: **Золата і ў гразі блішчыць**.

# 18.10 — 24.10

**(22.03. — 20.04.)** Мноства энергіі, але да 18.10. будзеш патрабаваць дапамогі. 18-21.10. хтосьці запрапануе табе супольны бізнес; не адкідвай гэтай прапановы, хаця можа будзе яна гучаць нерэальна. 18-22.10. нецярплівасць і злосць не будуць тваімі добрымі дарадчыкамі. Аздараўленне (хай гэта пачатак) верне табе надзею і веру ў лепшую будучыню. Цяпер лепш не падпісвай важных дакументаў, асабліва звязаных са страхоўкамі.

**(21.04. — 21.05.)** Выклічаш сімпатыю атачэння. Зоркі дакажуць, што добрая праца аплачваецца. 18-22.10. на канец убачыш кагосьці ўпартага, каго шмат раз адкідваў. 17-21.10. цяжка будзе табе дагадзіць, будзеш пераборлівы і марудны. 19-23.10. акажацца, што рызыкоўныя інвестыцыі прынясуць табе вялікі прыбытак. Шматлікім справам дасі крылы. Еж дыню ў розных відах.

**(22.05. — 22.06.)** 19-21.10. не прымай нічога за пэўную справу. 18-20.10. можаш раптам сказаць «так», расчулены да слёз. Дакучаць табе будзе бюракратыя, асабліва калі маеш свой бізнес. Не вельмі добры час на пачатак працы і падпісванне дамоў, хіба што маеш нож на горле. Збунтуешся супраць нерэалістычных патрабаванняў шэфа, не пагодзішся з абмежаваннямі. Хтосьці зматывуе цябе да таго каб паспяхова кінуць курэнне.

**(23.06. — 23.07.)** Хопіць табе адвагі, каб пазмагацца за сваё. Узбройся ў моцныя аргументы супраць канкурэнцыі. 18-22.10. дзейнічаць будзеш на большым маштабе. Смела бярыся за барацьбу з канкурэнцыяй, якая моцная толькі ілюзорна. 19-21.10. лепш укусі сябе за язык — каб не шкадаваць дурных слоў. Магчымыя дробныя перастоі, трэба задбаць аб дакументы і інфармацыю. Не распавядай аб планах,

**(24.07. — 23.08.)** Хопіць табе аптымізму і добрых задум. 17-20.10. не ўдасца ўцячы ад прыкрых абавязкаў. 18-20.10. акажацца, што будзеш мусіў зрабіць многа адзін. 20-24.10. будзеш прачулены на фальш у атачэнні. Не сядзі склаўшы рукі. Памятай, што хоць часу ніхто не гоніць, ён увесь час уцякае! Але пастаў на спорт і рэлякс. І насі шапку!

**(24.08. — 23.09.)** Тваё жыццё стане больш цікавым. Шчасце ў каханні і інтарэсах запэўніць Венера. Асабліва 18-20.10 рамантычныя сустрэчы і чулыя прызнанні. 19-23.10 зрэалізуеш свае планы — будзе рашучасць і крышынка шчасця. 19-21.10. паявіцца прапанова файнага падзаработку. Грошы будуць да цябе проста ліпнуць; 17-21.10. абавязкова зайграй у латарэю! Але 17-21.10. не ўліпні ў штосьці, на чым можаш многа страціць. З 23.10. міне твой меланхалічны настрой.

**(24.09. — 23.10.)** Хопіць табе адвагі, перамажаш кожную перашкоду. Але 17-21.10. можаш упакавацца ў пачуццёвыя турботы. 17-20.10. благія весткі для тых, хто хоча прадаць ці будуе дом,магчымыяперастоіі спазненні.18-20.10.нядобры час на рашэнне аб расстанні. 17-21.10. афармляй усё ва ўстановах, банках і судах. Але асцерагайся азарту і рызыкоўных інвестыцый. 18-20.10. вельмі пільнуйся ад інфекцый.

**(24.10. — 22.11.)** 19-23.10. выдатна ў інтарэсах. 18-20.10. дасі рады адмовіцца ад непрыемнай сустрэчы. 22-24.10. удала аформіш спадчынныя і жыллёвыя справы. Будзеш сардэчны і кампанейскі. Скарпіён з І дэкады знойдзе задуму, каб пабагацець. Вельмі пільнуйся, каб не злавіць якогась віруса. А масачкі — касметычныя на твар і валасы — зробяць з цябе проста бажаство!

**(23.11. — 22.12.)** 17-21.10. будзеш дацэнены важнай асобай. Але прыцягнуцца да цябе людзі хітрыя, карыслівыя, маніпулятары, прытым вельмі мілыя — хутка разбярыся ў іх намерах! 18-22.10. абвінавацяць цябе ў тым, у чым ты зусім невіноўны, набрэшуць. На новую добрую працу пакуль не знойдзеш прапаноў. Затое чакаюць цябе выдаткі (папсуецца машына?), і трэба будзе раскашэліцца. Трэніруй любы спорт.

**(23.12. — 20.01.)** 17-21.10. можаш сказаць «так». 17-21.10. павышэнне табе запрапануе само кіраўніцтва, а народжаным у ІІІ дэкадзе падкіне прэмію. Можаш так паправіць свой імідж, што некаторыя цябе не пазнаюць! Не спакусяць цябе нейкія экстра-тавары, больш застанецца ў кашальку. Казярог з ІІІ дэкады — не дай сябе справакаваць на дарозе — нага з газу!

**(21.01. — 19.02.)** 18-21.10. магчымае сямейнае ці кампанейскае непаразуменне. 19-21.10. вострая напруга ў пары. У пачуццёвых справах усё пойдзе згодна з тваёй думкай. Грошы, які маеш інвеставаць, укладзі ў вучобу (можа, нейкія курсы — моўныя ці камп'ютарныя? Не пазычай іншым, асабліва 18-20.10. Прабывай больш на прыродзе.

**(20.02. — 21.03.)** 19-23.10. саюзы, якія цяпер наладзіш, памогуць табе перамагчы канкурэнцыю. Хаця 17-21.10. можа чакаць цябе любоўнае расчараванне. З 22.10. твае сумненні адносна тае асобы развеюцца. Можа, падумаеш аб заснаванні сваёй фірмы? Шукаючы працу, пакажашся як найлепшы кандыдат. Пільнуйся скразнякоў!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 693 70 00 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# За Дунаем

**Нядаўна пісаў я пра гасцюючы на сёлетнім Фестывалі пяючай душы ансамбль «Святы Йоан Кукузел Ангелагалосны». Было м.інш.: «У 1979 годзе Людміла Жыўкава, дачка тадышняга балгарскага Першага, якая з даручэння партыі апекавалася балгарскай культурай, загадала па сваім капрызе рассячы хор. Адной часткай загадвала да 1986 года Таня Хрыстова, заснавальніца ансамбля. Другою часткай заняўся Дзімітр Дзімітраў, брат цяперашняга балгарскага патрыярха Неафіта». Людміла Жыўкава, трымаючы ў руках пласцінку з запісам хору, папросту сказала Тані Хрыстовай: «Вы не ведаеце, чаго Вы натварылі! Вы выцягнулі з бабінага куфра забароненае!» Ну і хор трэба было рассячы...**





Баба Ванга

Цяпер пакіну збоку харавое мастацтва і займуся асобай Людмілы Жыўкавай. А раней можа ейным бацькам, Тодарам. Гэта быў вельмі ўмелы партыйны кіраўнік, стаўшы на пасаду Першага ў сталінскі час ён, інакш чым апошнія лідары «братніх партый» трымаўся на пасадзе 35 гадоў, з 1954 да 1989 года. Пасля яго абвінавачвалі ў судах за розныя мінулыя правіны, але ён выйшаў сухім з вады...

А Людміла Жыўкава ў 1970-х гадах курыравала балгарскую культуру. І спраўлялася яна з гэтай справай даволі смела. Ну, эпізод з хорам «Святы Йоан Кукузел Ангелагалосны» быў капрызнай дробяззю. Яна не выцягвала старыны з бабулінага куфра, яна захаплілася навізной, не надта супадаючай з партыйнай лініяй. Яе захапіў загадкавы свет будызму, кабалы, акультызму, містыкі і спірытуалізму, непадуладны эмпірычнаму пазнанню, непадуладны афіцыйнаму партыйнаму матэрыялізму...

Людміла Жыўкава нарадзілася ў 1942 годзе ў сям'і рэвалюцыянераў Тодара Жыўкава і Мары Малеевай, ёй прысвоілі імя ў гонар праслаўлейшайся ў той час савецкай снайперкі Людмілы Паўлічэнка; Вікіпедыя: «Самая паспяховая жанчына-снайпер у сусветнай гісторыі — 309 зніштожаных салдат і афіцэраў праціўніка. З падачы амерыканскіх журналістаў атрымала мянушку Лэдзі Смерць. Аднак гэтай мянушкай карысталася толькі амерыканская і еўрапейская прэса, бо ў СССР такі вобраз дзеля ўспрымання масавай аўдыторыяй не прапагандаваўся. У СССР за ёю быў замацаваны вобраз заслужанага героя і ветэрана вайны». Аднак маладой Людмілы Жыўкавай не захаплялі ваенныя подзвігі, яна ўнаследавала па маці жаночую дабрыню, а дзякуючы бацькавай пазіцыі яна атрымала і намнога шырэйшыя магчымасці духовага развіцця і грамадскага поспеху. Яна закончыла Гістарычны факультэт Сафійскага ўніверсітэта імя Клімента Охрыдскага, а пасля штудзіравала гісторыю мастацтва ў Оксфардзе і Маскве. З вясны 1972 года яна ўзначальвае Раду старшынь творчых саюзаў Балгарыі. Яе ініцыятыўнасць і сямейна-грамадская пазіцыя спараджаюць папулярызацыю балгарскага мастацтва ў свеце. У замежжы паўстаюць балгарскія культурныя цэнтры...

Гэтую дынаміку спыняе катастрофа: выбіраючыся з візітам у Польшчу, у дарозе на аэрадром Людміла Жыўкава 12 лістапада 1973 года трапляе ў аўтамабільную аварыю і атрымлівае цяжкую траўму, з якою не магла справіцца традыцыйная медыцына. Людміла Жыўкава звяртаецца ў бок медыцыны нетрадыцыйнай, ёю займаюцца найбольш вядомыя балгарскія знахары, яна шукае аздараўлення ў філасофскіх плынях Усходу, наведвае Індыю, сустракаецца з вядомым гуру Саі Бабам. Вікіпедыя: «Паслядоўнікі прыпісвалі Саі Бабе розныя магічныя здольнасці — у прыватнасці, здольнасць матэрыялізаваць з паветра розныя прадметы: кольцы, каралі, гадзіннікі. Скептыкі ж вінавацілі Саі Бабу ў тым, што яго цуды — не больш чым пастановачныя трукі і называлі Саі Бабу ашуканцам. (...) У розны час, Саі Баба таксама аб'яўляў сябе ўвасабленнем Крышны, Буды, Ісуса Хрыста...»

А ў Балгарыі Людміла Жыўкава шчыльна звязваецца з тамашняй прадказальніцай Бабай Вангай. Вікіпедыя: «Ванга (Вангелія Пандзева Гушцерава, народжаная Дзімітрава; 31 студзеня 1911-11 жніўня 1996) — сляпая балгарская жанчына-экстрасэнс. Нарадзілася ў Асманскай імперыі ў сям'і беднага балгарскага селяніна. Вялікую частку жыцця пражыла ў вёсцы Петрыч, на стыку трох межаў (Балгарыя, Грэцыя, Рэспубліка Македонія). Апошнія 20 гадоў прымала наведвальнікаў у сяле Рупіцы. Ванга нарадзілася 31 студзеня 1911 у горадзе Струміца на тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Македонія. Імя «Вангелія» ў перакладзе з грэчаскай (грэч. Ευαγγελία) азначае «добрая вестка». З пачаткам Першай сусветнай вайны, бацька Вангі, Панда, быў мабілізаваны ў балгарскае войска. Маці памерла ў час родаў, калі Вангзе было чатыры гады. Дзяўчынка расла ў доме суседкі. Вярнуўшыся пасля вайны, аўдавелы бацька паўторна ажаніўся. У 1923 годзе, у час гвалтоўнай буры, была паранена, знойдзена сям'ёй мела ў вачах поўна пяску і пылу. Вангу адправілі ў горад да лекара. Урач у Бялградзе адмовіўся рабіць аперацыю з-за таго, што ў яго склалася ўражанне, што багаты чалавек не дае дастаткова грошай на аперацыю беднай сваячцы. Адбылося так таму, што Вангу да лекара прывёз не бацька, а сусед, які ехаў у тадышнюю сталіцу і ўзяў з сабой маленькую Вангу. Бацька ж Вангі не паехаў сам, каб зэканоміць на паездцы, не марнаваць грошай, і ўсе сабраныя сродкі аддаць менавіта лячэнню. Лекар не зрабіў аперацыі, але распачаў некаторыя меры па аздараўленні вачэй і даў строгія рэкамендацыі — здаровае харчаванне і здаровы лад жыцця ў цэлым. Сям'я Вангі была беднай, ні аб якім добрым харчаванні не было і гаворкі. У выніку Ванга аслепла. У 1925 годзе была накіравана ў Дом сляпых у Земуне ў Сербіі, дзе правяла тры гады. Пасля смерці мачахі яна вярнулася ў дом бацькі ў Струміцы. У 1941 годзе ўпершыню праявіла свае экстрасэнсныя здольнасці, расказваючы людзям, што іх чакае ў будучыні, а таксама дыягназуючы іх хваробы і падказваючы, якія лекары або знахары могуць ім дапамагчы. У маі 1942 года Ванга выйшла замуж за Дзімітрыя Гушцерава з сяла Крындждыліца Петрычаскай аколіі, якому разгадала забойцаў яго ных братоў. Незадоўга да вяселля яна пераехала з жаніхом у Петрыч, дзе пасля набыла шырокую вядомасць. Дзімітрый правёў нейкі час у войску, захварэў на алкагалізм і памёр у 1962 годзе. Ванга памерла ў 1996 годзе ад раку правай грудзі, не дазволіўшы рабіць сабе аперацыю».

Пасля вайны Вангзе было забаронена займацца экстрасэнснай дзейнасцю, да яе прыставілі ахову, якая забараняла доступу жадаючым яе наведаць. Толькі ў 1960-я гады атэістычны ціск паслабеў. У 1967 годзе Ванга стала працаўніцай заснаванага Людмілай Жыўкавай дзяржаўнага Інстытута сугесталогіі, атрымліваючы месячную зарплату ў 200 леваў; ёй быў пабудаваны спецыяльны прыёмны павільён. З таго моманту візіт у яе наведвальнікаў з краін усходняга блоку каштаваў 10 леваў, а з капіталістычных краін 50 доляраў; да таго часу Ванга прымала наведвальнікаў бясплатна або за нейкія сувеніры. Мяркуецца, што Баба Ванга прыносіла ў дзяржбюджэт Балгарыі больш прыбытку чым усе курорты краіны. Прымала яна ўсіх, без розніку на іх грамадскі статус. Яе дзейнасць стала легендарнай, ахапіўшы праўды і няпраўды.

Да яе меў у свой час прыехаць знясілены хваробамі Леанід Брэжнеў. Размова была кароткая — генсек спытаў, ці Ванга ведае, хто ён. Яна адказала, што бачыць перад сабою вялікага начальніка, якому нямнога жыць. А пасля ад яго ных спраў то і след не астанецца. Брэжнеў ускіпеў і выйшаў, вярнуўся ў Сафію. Пасля меў запрасіць у Маскву сваю экстрасэнсаўку Джуну Давіташвілі з Грузіі, якая, у сваю чаргу, мела падлечваць таксама папу Яна Паўла II, Барыса Ельцына, акцёраў Джульету Мазіну, Марчэла Мастраяні, Роберта дэ Ніра, Уладзіміра Высоцкага...

Да візіту ў Бабы Вангі рыхтавалася і Жаклін Кенедзі, удава па амерыканскім прэзідэнце Джоне Кенедзі, каб даведацца пра тайны забойства ейнага мужа. Аднак амерыканскія спецслужбы не дапусцілі да такой сустрэчы, апасаючыся, што ветраная Жаклін можа лёгка падпасці пад уплыў Вангі і тая будзе ёю маніпуляваць. А дзейнасць Бабы Вангі была пад шчыльным кантролем балгарскіх спецслужб, а тыя пад такім жа наглядам савецкіх... Да Вангі мелі дабівацца таксама Іосіф Ціта і Нікалае Чаўшэску, аднак яна адмовіла.

У жніўні 1968 года дзяржавы Варшаўскага дагавора ўвялі свае войскі ў Чэхаславакію; Баба Ванга ведала пра гэтую падзею раней, чым было абнародавана ў сродках масавай інфармацыі. Меў да яе званіць сам Тодар Жыўкаў, які не хацеў пасылаць сваіх жаўнераў у брацкую дзяржаву, аднак Баба Ванга параіла яму падтрымаць СССР і ён паслухаў яе. Дарэчы, Тодар Жыўкаў мог у любы момант кантактавацца з Вангай.

Баба Ванга лічыла сябе праваслаўнай. Па яе захадах была пабудавана царква святой Параскевы ў Рупіцах, у месцы, дзе яна прымала наведвальнікаў. Аднак, беручы пад увагу архітэктурную і іканапісную неканапічнасць, той храм не быў асвечаны афіцыйнай Балгарскай праваслаўнай царквой; гэтаксама не прызнаны і іншымі цэрквамі.

Яшчэ крыху пра лёс Людмілы Жыўкавай. Тодар Жыўкаў прасоўваў дачку ў вышэйшыя эшалоны балгарскіх улад. Яна ў 1979 годзе стала членам Палітбюро Балгарскай кампартыі, каб у перспектыве замяніць свайго бацьку на вярхоўнай пасадзе. Аднак 21 ліпеня 1981 года яна нечакана памерла, ейнае цела знайшлі ноччу ў плавальным басейне. Прычыны ейнай смерці неадназначныя, вельмі загадкавыя. Падазраваецца, што дапамаглі ёй сысці з гэтага свету спецслужбы. Маскве не магло падабацца, што ў саюзнай дзяржаве ўладаркай можа стаць жанчына, да таго ж фанатка нематэрыялістычных філасофскіх плыняў, вегетарыянка, апранаючаяся адно ў белае. Толькі што праваліўся замах на папу Яна Паўла II, савецкая разведка пэўна добра ведала, што ўскіпае ў непакорнай Польшчы, дык трэба было дзе толькі магчыма прыняць рашучыя меры...

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

ISSN 0546-1960 42